ISSN 0320-7579

№ 8/2016(1059)

# Бярозка № 8

**АДЗІН ДЗЕНЬ З БАРЫСТА**

ПАКУЛЬ У СВЕЦЕ ЁСЦЬ КАВА



Фота Рыты Шылей

**28**

**ЗАНЯТКАЎ НА КАНЕЦ ЛЕТА**

# Выключна знаходкі

**Рагачоўскі музей народнай славы прадстаўляе**

Знак-нагруднік ваяра літоўскага войска Барскай канфедэрацыі. На адным баку па цэнтры контур Божай Маці з дзіцём на руках. На адваротным — намаляваная сцэна «Укрыжаванне Хрыста». Вельмі рэдкая знаходка, па звестках навукоўцаў Інстытута гісторыі ў Еўропе існуе не больш за два падобныя асобнікі.





У музеі знаходзіцца масонскі знак XIX стагоддзя з сімваламі і надпісамі. Зроблены з белага металу, выпушчаны ў Амерыцы. Знойдзены на поўначы Рагачоўскага раёна.

А таксама нож XII стагоддзя з касцяной ручкай і арнаментам. Знойдзены падчас экспедыцыі ў 1998 годзе. Такіх нажоў засталося не больш за дзясятак.

Фляга металічная часоў Вялікай Айчыннай вайны. Знойдзена ў траншэі на поўначы ад Рагачова, у лесе. На флязе выдрапаны адрас салдата. Па ім супрацоўнікі музея адшукалі ўладальніка. У Рагачове ён ніколі не служыў, а фляга, хутчэй за ўсё, трапіла туды, калі салдат адпраўлялі з месца на месца, і хтосьці з іх захапіў з сабой знаходку.



**Дзе гэта можна ўбачыць: Рагачоў, вуліца Леніна, 58.**

# «Выпадкова падалі зоркі ў мае пустыя кішэні і пакідалі надзеі»



Марыя Страх

Прыгожы танец нараджаецца з жаданнем танцаваць. А жаданне прыходзіць з верай у сілы і поспех. Час адкрыў чалавецтву сотні вялікіх імёнаў. Але хто ведае, колькі хваляванняў, пакут і бяссонных начэй засталося за кожным творам любога мастацтва. Патрабуецца неверагодная смеласць, каб пакінуць адчыненымі дзверы ў асабісты свет пачуццяў і ўяўленняў. Якая ж сіла не дазваляе апусціць рукі, калі, здаецца, увесь свет паўстае супраць цябе? На мой погляд, надзея.

Перад тым, як прывесці прыклады з біяграфій сусветнавядомых геніяў, раскажу невялікую гісторыю пра сябе. Дзесяць гадоў таму я пачала займацца музыкай — іграць на фартэпіяна. За гэты час мне пашчасціла пазнаёміцца з сапраўднымі талентамі, вывучыць дзясяткі найпрыгажэйшых, я лічу, твораў, шмат разоў выступіць на фестывалях і канцэртах. Але я хачу прыгадаць выпадак, які здарыўся са мною яшчэ ў пачатковых класах.

На адным з канцэртаў я іграла, як зараз памятаю, эцюд Чэрні. Спачатку іграла добра і ўпэўнена. Але потым са мной здарылася тое, праз што праходзіў кожны: я забылася тэкст… Пасля такога правалу я цвёрда вырашыла больш не іграць. «А навошта, калі я такая няздольная?»

Мае дзіцячыя крылы вярнулі мне словы аднаго з настаўнікаў: «А калі я забудуся тэкст, мне таксама пакінуць інструмент? Давайце ўсе пакінем! Запомні: ніколі не спыняйся, калі штосьці не так. Іграй далей!» Вось узяць бы і прыкласці гэтыя словы да жыцця ўвогуле. Як гэта важна — у патрэбны момант выратаваць чыюсьці мару. Пераканаць: адна няўдача — яшчэ не канец жыцця.

Кажуць, чалавеку патрэбен чалавек. А творчаму чалавеку ён патрэбен яшчэ больш. Кожная новая ідэя, быццам дзіця, шукае падтрымку і шчырасць. Нават генію працуецца ў тысячу разоў лягчэй, калі хтосьці на свеце ў яго верыць.

Напрыклад, Вінцэнт Ван Гог. Цяпер ён лічыцца своеасаблівым «эталонам» постімпрэсіянізму, а яго карціны з лёгкасцю пазнае нават школьнік. Але праз якія пакуты прайшоў творца ў сваім жыцці?

Жаданне маляваць прыйшло да Вінцэнта даволі позна — у 27 гадоў. У яго не было ні вопыту, ні адпрацаванай тэхнікі, ні добрага настаўніка. Бацькі, хвалюючыся за матэрыяльнае становішча сына, угаворвалі кінуць жывапіс. Старэйшыя мастакі, да якіх ён звяртаўся па параду, у адзін голас казалі: «Позна». І толькі дзякуючы велізарнай падтрымцы малодшага брата Тэа творца пачынаў працу зноў і зноў. Словы сваяка давалі мастаку надзею, былі святлом сярод цемры нявер'я.

Магчыма, вось чаму на палотнах майстра столькі зорак. Нездарма Ван Гог у адным з лістоў напісаў: «Адзінота — даволі вялікае няшчасце, штосьці падобнае да турмы».

Не было б на зямлі столькі цуду навукі і мастацтва, калі б за кожным наватарам не стаяў хтосьці, чыё імя, магчыма, засталося невядомым. Гэтыя ціхія памочнікі далі веру тым, хто потым зрабіў самыя гучныя адкрыцці ў гісторыі.

Варта сказаць пра амерыканскага вучонага Томаса Эдысана. Калі Томас быў падлеткам, яго маці атрымала ліст са школы, дзе ён вучыўся. У лісце было сказана, што Эдысан настолькі неразумны і някемлівы, што настаўнікі не жадаюць больш займацца з ім. На пытанне сына, што было ў лісце, маці адказала: «Школа лічыць цябе геніяльным».

А далей былі доўгія гады пошуку. Эдысан правёў больш за тысячу няўдалых эксперыментаў. І, магчыма, толькі дзякуючы матчынай веры лямпачка ўсё ж запалілася… А той школьны ліст Эдысан знайшоў ужо пасля смерці маці. Прачытаўшы, што насамрэч было напісана, вучоны праплакаў некалькі гадзін. А затым на старонках яго дзённіка з’явіўся запіс: «Томас Алва Эдысан быў адсталым. Дзякуючы сваёй гераічнай маці ён стаў вынаходнікам стагоддзя».

Усё можа спраўдзіцца, калі ў гэта верыце не толькі вы. Адзінота ўвогуле вялікая пагроза для творчасці. Страшна ўявіць, колькі нікім не падтрыманай арыгінальнасці проста знікла. Аднак бываюць і выключэнні. Для некаторых чорныя палосы становяцца палосамі для ўзлёту. Камусьці трэба дакрануцца да самага дна, каб адштурхнуцца і рушыць уверх, да сонца. Нямала існуе гісторый пра тое, як любоў да справы перамагла няўпэўненасць, а часам і несправядлівасць.

У сярэдзіне XIX стагоддзя музычныя колы Італіі пачулі новае імя — Джузэпэ Вердзі. Яго творы — адны з галоўных дасягненняў сусветнага опернага мастацтва. «Рыгалета», «Травіята», «Аіда», «Фальстаф» і многія іншыя творы і цяпер з’яўляюцца асновай рэпертуару оперных тэатраў. Але ў жыцці Вердзі быў не толькі поспех.

Калі дзевятнаццацігадовы Джузэпэ прыйшоў да дырыжора Міланскай кансерваторыі, то атрымаў жорсткі адказ: «Пакіньце думку пра кансерваторыю. А калі так хочаце займацца музыкай, то пашукайце настаўніка сярод гарадскіх музыкантаў». Гэта быў 1832 год. А ўжо праз некалькі дзесяцігоддзяў Міланская кансерваторыя з гонарам узяла імя некалі адрынутага музыканта.

Так, ёсць сярод нас моцныя, незалежныя ад чужых меркаванняў асобы. Але і яны заслугоўваюць кроплі цяпла. Людзям увогуле варта быць больш уважлівымі адзін да аднаго. «Забітых словам дабіваюць маўчаннем», — пісаў Шэкспір. Мы не ведаем, колькі схаванага таленту гіне кожны дзень толькі таму, што ён нікому не патрэбен. У нас няма магчымасці выратаваць увесь свет, але мы здольныя камусьці шчыра прашаптаць: «Вы зможаце». І заб’ецца па-новаму нечае сэрца. І загарыцца надзея. І ціхія словы заззяюць шчаслівай пуцяводнай зоркай.

Перапынак

## Прайсці праз «балота»

Двум удзельнікам даюць па два папяровыя аркушы. Яны павінны прайсці праз «балота» па «купінах» — папяровых аркушах. Трэба пакласці аркуш на падлогу, стаць на яго, а другі аркуш пакласці перад сабой. Пераступіць на гэты аркуш, павярнуцца, падабраць першы аркуш, зноў пакласці яго перад сабой і зноў пераступіць… Хто першы пройдзе «балота», той і перамог.

# Як развітацца з летам 28 выдатных ідэй

***Напрыканцы жніўня цябе наведваюць супярэчлівыя думкі. З аднаго боку ты шкадуеш, што канчаюцца летнія канікулы, а з другога — у цябе наперадзе новыя мары, новыя планы, магчыма, нават новае месца вучобы. Каб сустрэць 1 верасня радасна, трэба наталіцца летнімі ўражаннямі напоўніцу. Тут табе дапамогуць нашы парады.***



## 1. Наведаць гістарычныя мясціны

Сярэднявечны замак, старажытнае гарадзішча, пасляваенны мемарыял у цэнтры сталіцы ці па-за райцэнтрам — кожны куток Беларусі мае адбіткі гісторыі. Дакраніся да помніка, які на свае вочы бачылі яшчэ продкі, — і станеш трошкі гісторыкам і трошкі філосафам.

## 2. Адшукаць бліжэйшую аглядную пляцоўку

Цяжка ўстрымацца ад спакусы зрабіць дзясяткі здымкаў прыгожых краявідаў. Асабліва калі прырода або тэхнічны прагрэс дазваляюць агледзець наваколле зверху. Сёння няцяжка знайсці месца для агляду. У Мінску гэта пляцоўка Нацыянальнай бібліятэкі, у Гомелі — аглядная вежа ў парку. Гарады на Мінскім узвышшы відаць, як на далоні, са шматлікіх пагоркаў. Нават дах звычайнага шматпавярховіка можа адкрыць нанова прыгажосць твайго краю. Трэба толькі пажадаць яе разгледзець.





## 3. Збегчы на бязлюдны востраў

Часам хочацца кінуць усё і збегчы туды, дзе нікога няма. Для гэтага неабавязкова пераплываць акіян. Адзіночныя астравы ёсць на кожнай буйной рэчцы, возеры або вадасховішчы. Самае прыемнае — ты ў любы момант можаш вярнуцца на «вялікую зямлю», калі рабінзанада надакучыць.

## 4. Прайсці праз лес



За час канікул ты пазнаёміўся з новымі людзьмі, гарадамі, магчыма, нават краінамі. Надышоў час пазнаёміцца з самай распаўсюджаным беларускім біяцэнозам — лесам. Вядома, ты бачыў лес знутры: хадзіў у грыбы і ягады, гуляў з сябрамі ці праставаў да вёскі. Але гэта тое ж, што проста кіўнуць знаёмаму замест таго, каб падрабязна распытаць пра ягоныя справы. Каб «распытаць» лес, адчуць супакой векавых дрэў, услухацца ў запаведны спеў птушак, з'яднацца з сапраўднай прыродай, трэба адысці ад сцяжынкі ўглыб, пераскочыць ярок, прадзерціся праз кустоўе. У пошуках прасвятлення не забывайся на правілы бяспекі. Пэўныя месцы ў змешаным лесе нагадваюць непралазныя джунглі. Таксама, як і ў джунглях, у нашых лясах лёгка заблукаць. Такая прыгода захапляе, трохі палохае, але ўсё роўна вабіць.



## 5. Спазнаць жыццё на вёсцы

Калі з'явілася жаданне пабыць у самоце, неабавязкова хавацца ў лесе. Цішыню можна знайсці ў вёсцы, галоўнае — не браць з сабой ноўтбук або планшэт. Вёска дорыць унутраны адпачынак. Памыць твар калодзежнай вадою, пакарміць курэй, гадзіну-другую дапамагчы прапалваць агарод, навучыцца калоць дровы, сарваць дэсерт проста з дрэва або куста і нікуды-нікуды не спяшацца. У вёсцы час спыняецца. І гэта вельмі добра.

## 6. Праехаць чыгункай

У абласны цэнтр або на знаёмую вёску — падарожжа цягніком не пазбаўлена рамантыкі. Чыгунка перамяшчае пасажыраў на меншыя адлегласці, чым самалёт, але кожную хвіліну адкрывае для зроку новыя краявіды. Беларускія чыгуначныя маршруты — гэта не толькі магчымасць лішні раз палюбавацца нашымі лясамі ды палямі, але і авантурная прыгода. Недарэмна стук чыгуначных колаў лічыцца адным з самых захапляльных гукаў.





## 7. Загарэць

Першая прыкмета чалавека, які вярнуўся добра адпачыўшы летам, — смуглая скура. Ты можаш валяцца, нібы цюлень, на пляжы, праз дрымоту аглядаючы наваколле, або руплiва збіраць ураджай на лецiшчы. Твая задача — да першага верасня актывізаваць столькі «летняга» пігменту скуры, колькі табе дазволяць час і надвор’е.

## 8. Пачытаць «Бярозку» ў парку




Што такое парк для сучаснага горада? Гістарычнае месца, як парк Паскевічаў у Гомелі або парк Радзівілаў у Нясвіжы. Цэнтр культурнага жыцця, як Маладзечанскі або Віцебскі гарадскі парк. Куточак цішыні і запаволенасці часу пасярод бурлівага мегаполісу, як парк Перамогі ў Мінску або Першамайскі ў Брэсце. Дастаткова некалькі хвілін адпачыць на дальняй лаўцы, пакарміць птушак, пачытаць кнігу ці часопіс, як строй думак мяняецца карэнным чынам.



## 9. Адшукаць сэнс жыцця

У кожнага чалавека ёсць пытанні, якія не могуць быць зададзены нікому. Часам адказы прыходзяць самі, у выніку роздуму або звароту да вышэйшых сіл. Хто верыць у Бога, той шукае ісціну ў храме. Там не зашкодзіць пабываць незалежна ад веравызнання — каб сустрэцца з глыбокай гісторыяй і моцнай энергіяй. І, магчыма, зразумець сэнс жыцця.

## 10. Паназіраць за дзікімі жывёламі

Нават у цэнтры Мінска можна пабачыць вавёрак у парку імя Янкі Купалы і выдраў на Востраве Мужнасці і Смутку. Вельмі добра, калі табе выдасца магчымасць наведаць Белавежскую пушчу. Там можна сустрэцца з волатамзубрам. У гушчарах Гродзенскай вобласці нярэдкія сустрэчы з ласём ці аленем. Але і ў іншых лясах нашай краіны ты пабачыш шмат каго — ад вожыка і палёўкі да дзіка і лісы. Галоўнае — цярплівасць.





## 11. Падарыць маці букет лугавых кветак

Кветкі выказваюць любоў найлепшым чынам. Яны да месца з любой нагоды. Прыемны пах, пяшчотныя пялёсткі, дзіўныя і непаўторныя краскі прыроды. У жніўні ты знойдзеш на лузе бела-жоўтыя рамонкі, ружовую канюшыну, мацярдушкі і іншыя.

## 12. Пабыць валанцёрам

Ты, напэўна, ведаеш, хто такія валанцёры. Яны робяць добрыя справы і не думаюць пра грашовую выгаду. Яны атрымліваюць задавальненне ад таго, што прыносяць карысць тым, каму патрэбна дапамога. Калі гэтыя адчуванні табе яшчэ невядомыя — самы час іх паспытаць. Суполкі валанцёраў можна знайсці ў сацыяльных сетках. А можна выбраць асобную арганізацыю і звязацца з ёю наўпрост. Напрыклад, аддаць цацкі ў дзіцячы дом, наведаць канцэрт ці творчую выставу цяжка хворых дзяцей. Нават звычайны перапост заклiку аб дапамозе можа прынесці плён. Памятай, кожная добрая справа калі-небудзь вернецца да цябе.






## 13. Сфатаграфаваць вясёлку

Гэтую з’яву фізікі называюць праламленнем і адлюстраваннем святла, тэолагі — сімвалам прабачэння чалавецтва, а рамантыкі — самым прыгожым наступствам летняга дажджу. Нават калі ты не лічыш сябе рамантыкам, вясёлка на галоўным экране тэлефона кожны дзень будзе нагадваць пра цёплы летні дождж ык, пасля якога ты зрабіў гэты здымак.



## 14. Наведаць музей

Нават калі ты не знаўца гісторыі або мастацтва, музей здолее цябе здзівіць. Гэта неабавязкова будзе вядомы шэдэўр ці растыражаваная скульптура. Невялікая гравюра ў напаўпустой галерэі можа перавярнуць тваё ўяўленне пра выяўленчае мастацтва. А колькі новых ведаў для будучых урокаў гісторыі ты возьмеш у гістарычным музеі! Многія музеі адзін дзень на месяц практыкуюць бясплатны ўваход.

## 15. Наблізіцца да мастацтва



Ці часта ў тваім дзённіку з'яўлялася дзясятка «за творчы падыход»? Хочаш у новым навучальным годзе атрымліваць яе часцей? Пачынай развіваць свае творчыя здольнасці! У кожнага чалавека ёсць пэўны творчы патэнцыял, застаецца толькі вызначыць кірунак. Любіш музыку? Паглядзі ў інтэрнэце відэаўрокі ігры на гітары. Марыш стаць дызайнерам? Пачні маляваць рэальнымі, а не віртуальнымі пэндзлямі і фарбамі. Урокі танцаў і кулінарыі, пашыву адзення і мантажу відэафільмаў — любы від мастацтва навучыць цябе творчаму мысленню. Нават калі ты не атрымаеш міжнародную прэмію, у цябе застанецца цікавае і карыснае хобі на зайздрасць сябрам.



## 16. Зрабіць зарадку на двары

Фізічныя практыкаванні — гэта не толькі гартаванне і ўзмацненне цела. У часы юнацтва нашых бацькоў кожны школьнік павінен быў займацца тым, што сёння называюць воркаўтам. Гэта значыць, рэгулярна аздараўляцца з дапамогай фізкультуры на свежым паветры. Сёння імкненне да фізічнай дасканаласці носіць больш практычны, канкрэтны сэнс — стаць КМСам у пэўным відзе спорту, атрымаць «дзясятку» па фізкультуры, павялічыць біцэпс або паменшыць талію і гэтак далей. Паспрабуй зрабіць некалькі лёгкіх практыкаванняў на спартыўнай пляцоўцы — ты адразу адчуеш, як павышаецца настрой. Можа, знойдзеш сабе карысную новую звычку?



## 17. Заняцца спортам

Веласіпед, ролікі, мяч, гімнастычная сценка, возера, у якім можна плаваць, дарожка, па якой можна бегчы, — любы від спорту прынясе табе значна больш упэўненасці, чым прэміум-акаўнт самай моднай гульні. Зразумела, калі ты не палічыш, што двух-трох рэальных трэніровак табе дастаткова для фізічнага ўзроўню «я — супермен». Нават шахматы здольныя зрабіць цябе зоркай у класе, калі займацца імі кожны дзень. Наперад!

## 18. Аздаравіцца ў лепшых славянскіх традыцыях



Успомні, якія пабудовы ёсць на звычайным вясковым двары. Хата, варыўня, свіран, стайня, лазня. Нашы продкі лічылі, што лазня змывае грахі. І мала было такіх падрабязна прадуманых рытуалаў, як мыццё ў лазні: якімі дровамі тапіць, які венік выбіраць, якія зёлкі заварыць, якую тэмпературу падтрымліваць… Лазня добра вядомая кожнаму беларусу. «У лазні мыцца — нанова нарадзіцца» — кажуць у народзе. І да нашага часу лічыцца, што лазня ачышчае і цела, і душу.



## 19. Сустрэцца з сябрамі ў цэнтры

З даўніх часоў цэнтры мястэчак адыгрывалі важную ролю. Тут праводзілі сходы, даведваліся пра навіны, гандлявалі ды проста бавілі час. Сёння галоўныя вуліцы і плошчы застаюцца тварамі населеных пунктаў, на якія перш за ўсё глядзіць вандроўнік і якімі ганарацца мясцовыя жыхары. Пакуль не пачаліся бясконцыя ўрокі і дадатковыя заняткі, прагуляйся з сябрамі ў самых папулярных месцах твайго мястэчка.

## 20. Зладзіць вечарыну

Не мае значэння, колькі табе гадоў і ці засталіся дома бацькі. Запрасіць сяброў на вячоркі можна, нават калі ты дзеліш пакой з малодшым братам. Патрэбна толькі загадзя папярэдзіць бацькоў. Прыбяры і ўпрыгож пакой, прыгатуй пачастунак і настольныя гульні або прыдумайце разам вясёлыя спаборніцтвы, накідай на падлогу падушак, часопісаў, уключы музыку ці кіно, якое спадабаецца тваім сябрам, — і атмасфера для сэйшэну падрыхтавана!





## 21. Пабываць на стылізаваным фэсце

Фэст — гэта свята, дзе можна павесяліцца і прасякнуцца новай культурай. Краскі, фаер-шоу, гістарычныя рэканструкцыі — тэмай фэсту можа быць што заўгодна, але абавязковыя складнікі — яркія ўражанні і выдатны настрой. Зазірні ў афішу, пакуль трывае цёплае надвор'е: па ўсёй краіне адбываюцца фэсты самага рознага кшталту.

## 22. Паглядзець цыркавое шоу

Ці памятаеш сябе ў тым узросце, калі 1 верасня быў звычайны дзень? Калі дзіцячы садок прымаў цябе і ў жніўні, і ў чэрвені? Цырк, як нішто іншае, дапамагае перанесціся ў дзяцінства: разумныя жывёлы, смешныя клоўны, салодкі папкорн, гімнасты. Гэта асобны чароўны свет, дзе ўсё інакш. Рэгулярныя цыркавыя прадстаўленні праходзяць у Мінску і Гомелі. Калі табе нязручна ехаць за блізкі свет, арганізуй прагляд цыркавога прадстаўлення ў інтэрнэце сабе і бацькам або сябрам. Не забудзься запаліць рознакаляровую гірлянду і насмажыць папкорну.





## 23. Асмеліцца на самы экстрэмальны атракцыён у парку

Атракцыёны — забава не толькі для дзяцей. Ад некаторых горак нават дарослых бяруць дрыжыкі. Менавіта такія атракцыёны шукай у бліжэйшым парку. Яны даюць шмат эмоцый і адрэналіну. Не сумуй, што лета сыходзіць! Прапанаваных уражанняў табе хопіць на ўвесь будучы год!



## 24. Пакаштаваць штосьці новае

Новае піронжае, бабуліны закваскі, казінае малако — без харчовых уражанняў успаміны пра лета будуць няпоўнымі. Калі ты зусім непатрабавальны да ежы і ніводны прадукт не здаецца табе незвычайным, вартым асобнага пункту, пакаштуй экстрэмальныя стравы — пякучы перац, лімонны фрэш. Або ўяві, нібы ты — сусветнавядомы скаўт, Беар Грылс, і набудзь у заалагічнай краме сушаных цвыркуноў. Дарэчы, смажаныя конікі і цвыркуны складаюць нацыянальныя кухні шматлікіх паўднёвых краін. Таму ты адначасова пазнаёмішся з іншай культурай. І будзеш ведаць, як сапсаваць дзяўчатам апетыт у сталоўцы.



## 25. Зацікавіцца навуковымі дасягненнямі

Спрадвеку самыя цікаўныя навукоўцы — інжынеры, вынаходнікі, пісьменнікі — спрабавалі сфарміраваць, прадказаць будучыню і даць магчымасць чалавеку даведацца, якім будзе жыццё заўтра. Адкрыцці здзяйсняюцца кожны дзень. Не варта чакаць, пакуль яны стануць распаўсюджанымі. Зазірні ў будучыню сёння. Наш свет увесь час абнаўляецца. Шукай навокал не толькі адбіткі мінулага, але і прыкметы будучыні. Гэта не менш цікава: шмат з таго, што сёння ты ўспрымаеш незвычайным, хутка стане паўсядзённым.



## 26. Пазнаёміцца з падручнікамі на наступны навучальны год

Сустрэнь новы год у поўным узбраенні. Нават калі табе гэта зусім нецікава, ты павінен мець хоць прыблізнае ўяўленне, чаго чакаць ад будучых урокаў. Не выключэнне, што якраз летам у цябе ёсць магчымасць назапасіць дадатковы матэрыял да пэўных тэм. Заходзь на сайт adu.by, выбірай старонку «Электронныя падручнікі», клас, мову навучання, год выдання — і знаёмся з будучымі крыніцамі ведаў!

## 27. Адчуць сябе мужчынам ці жанчынай



Дарослыя больш спакойныя і ўраўнаважаныя. Тут нашы сцежкі разыходзяцца: дзяўчынкі — улева, хлопчыкі — управа. Хлопцам я прапаную ўзяць вуду і правесці час як належыць сапраўднаму мужчыну — за здабычай ежы, дакладней, рыбы. Яднанне з прыродай і прыемная лёгкая стома сапраўды аднаўляюць. Дзяўчыне, каб адчуць аднаўленне, аднаго адпачынку мала. Дзяўчат шчыра запрашаем у цырульню! Рыхтуемся да новага вобразу і асмельваемся на эксперыменты. 1 верасня аднакласніцы павінны самлець ад зайздрасці.



## 28. Закахацца

Лета — пара, калі кожны дзень можа здарыцца незвычайнае. Чаму закахацца лепш за ўсё ў канцы лета? Таму што пачатак навучальнага года — найлепшы індыкатар на сапраўднасць пачуцця. Калі праз два тыдні яно выцесніцца школьнымі турботамі, значыць, гэта яшчэ не сапраўднае каханне. А калі сапраўднае — адна толькі гэтая прыгода на ўсё жыццё пакіне ў тваёй памяці цяперашняе лета!

***Ліна Чарняўская***

# Лісімава гара

Я жыву ў вельмі прыгожай вёсцы з назвай Бляяеўка. Найперш яна прыгожая ландшафтам. Вёска мае ўзвышшы і ўпадзіны, і кожнае з такіх месцаў асабліва названа: Лёксіна гара, Лісімава гара, Марфіна крынічка, Федзікіна кладка, і з кожнай назвай, вядома ж, звязана гісторыя.

Мне хочацца расказаць, адкуль пайшла назва Лісімава гара.

Яшчэ ў той час, калі нашы бацькі былі школьнікамі, гэтае месца было вельмі папулярным. У зімовыя марозныя дні, асабліва ў час канікул, дзятва, узяўшы санкі, канькі і каталкі, шпарка неслася на гэтую гару. Пасеўшы на санкі па некалькі чалавек, адпіхнуўшыся нагамі, дзеці з віскатам і гучнымі воклічамі мчаліся ўніз. Колькі весялосці было ў рабят, колькі радасці!

А гэтая гара, дакладней, пагорак, не вельмі далёка ад хаты, дзе жыў стары сівы дзед. Усе яго звалі дзед Лісім, і ён ніколі не перашкаджаў мясцовай дзятве весяліцца каля сваёй хаты. Таму пагорак гэты дзеці, а за імі і дарослыя пачалі называць Лісімавай гарой.

Ну, а сёння ўжо мы, дзеці сваіх бацькоў, на зімовых канікулах, узяўшы санкі або лыжы, таксама спяшаемся на тую гару, каб весела правесці вольны час. І хоць старога Лісіма ўжо даўно няма на гэтым свеце, гара засталася ягонай, як светлая памяць аб добрым дзядулі.

***Вольга Фалеева,***
***9 клас, Залеская СШ, Чачэрскі раён***

# Святое возера

У нашым раёне ёсць возера, якому назву далі Святое. Такая назва часта сустракаецца і ў іншых мясцінах. Але назва нашага возера пайшла ад таго, што нібыта раней на гэтым месцы стаяла царква. Падземнае цячэнне разбурала зямлю, і аднойчы царкоўны будынак праваліўся ўніз разам з вернікамі, якія ў той час былі ў храме. І амаль адразу ж на гэтым месцы ўтварылася возера.

Такая легенда. А ці так яно было на самай справе, невядома. Кажуць, яшчэ ніхто не дастаў дна возера, і якая яго глыбіня — невядома. А яшчэ кажуць, што пры моцным парывістым ветры, калі на возеры ўздымаюцца вялікія хвалі, можна пачуць, як дзесьці глыбока пад вадой гучаць званы. А ў ціхія зорныя ночы, знаходзячыся блізка каля возера, можна пачуць яшчэ і ціхія галасы людзей, якія працягваюць маліцца ў падводным храме.

***Віталь Луфераў,***
***8 клас, Залеская СШ, Чачэрскі раён***

# Мёртвая цішыня



— Рэкс прапаў, — непакоіўся Вася.

— На Ціхім востраве пашукаць трэба. Там зранку чулі брэх, — сказаў Лёша, гледзячы на невялікі астравок пасярод возера. Ён лічыўся дрэнным месцам. Чаму? А раптам Рэкс там?

Даплылі без прыгод. А на востраве адчулі дзіўную цішыню. Сапраўды ціхі востраў. Ненатуральна ціхі: не спяваюць птушкі, не гудуць мухі, не шапоча лістота. Ды і ветру няма: густое, гарача-вільготнае паветра ахутвае з усіх бакоў.

Хлопцы здзіўлена азіраліся, стоячы пасярод палянкі, абкружанай густым невысокім лесам. Мёртвая цішыня прыгнятала.

— Там нешта белае, — сказаў раптам Вася. — Мо Рэкс?

— Ды не, — запярэчыў Лёша. — Вось ён, за елкай! Рэкс!

Не звяртаючы ўвагі адно на аднаго, хлопцы рушылі кожны ў сваім напрамку.

Выйшлі да прагаліны адначасова — стомленыя, падрапаныя, расчараваныя. І спыніліся: вакол было шмат птушак! Розных. Усялякіх, якіх толькі можна сустрэць у краязнаўчым музеі: ад сініцы да чорнага бусла. Яны сядзелі на лапах елак, у траве, на заімшэлых камянях і ўважліва глядзелі на хлопцаў. І ўсе маўчалі.

— Васька! Гэта ж чучалы!

— Не трэба тут крычаць! — пачуўся ззаду сіпаты шэпт. Хлопцы азірнуліся. Побач стаяў высокі чалавек у бясформенным макінтошы і насунутым на твар саламяным капелюшы.

— Хто вы, дзядзечка? — асцярожна спытаў Вася.

— Ч-чучальнік, — прасіпеў мужчына. — А вы што тут згубілі?

— Вы сабаку нашага не бачылі? Белага, калматага, тры дні як знік!

— С-сабаку… Хадзем са мной.

Чучальнік прывёў хлопцаў на невялічкага хлява, што тырчаў прама з-пад зямлі ў самай глухой частцы вострава.

— Ваш сабачка? — спытаў ён, адчыняючы дзверы, падпёртыя паленам. Хлопцы прыглядзеліся.

— Лёшка, гэта ён! — узрадаваўся Вася. — Рэкс, сюды!

Але Рэкс нерухома пазіраў на гаспадара. Пачуўся смех:

— Добры сабачка. Паслухмяны. Т-такі ціхі!

— Што вы з ім зрабілі?! — Лёшка ў адчаі рвануў да дзвярэй, якія хутка зачыняліся. Грукнуўся аб іх усім целам і ўпаў, літаральна сарваўшы з петляў. — Навошта вы забілі сабаку?!

— Каб ён не брахаў! — зашыпеў мужчына, хапаючы хлопчыка за плячо. — Я люблю цішыню! І вы таксама не будзеце тут крычаць!

— Адпусціце яго! — крыкнуў Вася, кідаючыся пад ногі таксідэрміста.

Той пахіснуўся, губляючы раўнавагу, неяк ненатуральна склаўся і… упаў, разваліўшыся на палавінкі, набітыя саломай!

Чучала!

Як ім удалося вярнуцца з вострава, ніхто з іх не памятаў. А на ўсе пытанні пра яго абодва адказвалі: «Мёртвая цішыня!»

***Прывід Аркаша***

# На рэальных падзеях

Гісторыя заўсёды была маім любімым школьным прадметам. Я ўспрымала падручнікі па гэтай дысцыпліне з такой жа лёгкасцю, як і мастацкія кнігі, якія распавядаюць пра розныя часы. А вось у маёй лепшай сяброўкі адносіны з гісторыяй складваліся няпроста. Яна не разумела гэты прадмет і літаральна на другім абзацы параграфа незваротна губляла ўвагу. Зразумела, я не магла ўявіць сябе ў яе «скуры», гэтак жа, як і не магла знайсці корань праблемы. Але я магла ёй дапамагчы. Спачатку пераказвала падзеі на свой лад. Пазней быў знойдзены больш дзейсны спосаб — фільмы. Добры мастацкі фільм з якаснымі дэкарацыямі і лагічна пабудаванымі думкамі можа не толькі дапамагчы ў вывучэнні біяграфій канкрэтных асоб — ён яшчэ і спрыяе агульнаму ўспрыманню звычаяў і сістэмы розных часоў і краін.

Я прапаную вам падборку фільмаў, пасля прагляду якіх падручнік па гісторыі стане не толькі лёгкім і зразумелым, але і цікавым. Усе фільмы, пералічаныя ніжэй, заснаваны на рэальных падзеях.




**1. «Эксперымент 2: Хваля»**
**Год выпуску: 2008**
**Рэжысёр: Дэніс Ганзель**
**Краіна: Германія**
**Час дзеяння: нашы дні**

Вас можа здзівіць, што мая падборка пачынаецца з фільма, які расказвае пра наш час. Але менавіта ён больш за ўсё дапаможа ў разуменні такіх тэрмінаў як «аўтакратыя» і «дэмакратыя». Фільм расказвае пра нямецкага настаўніка, які прапанаваў сваім вучням пабудаваць у межах класа таталітарызм. Каб пазбегнуць «спойлераў», больш пра сюжэт фільма нічога не скажу. Хіба што дадам: фільм параіла выкладчыца гісторыі ўсяму класу, яшчэ ў ліцэі, а калі на наступныя заняткі мы масава прыйшлі ў белых кашулях, яна падалася нам вельмі незадаволенай. Чаму? Зразумееце пасля прагляду.

**2. «Чароўная краіна»**
**Год: 2004**
**Рэжысёр: Марк Форстэр**
**Краіна: ЗША, Вялікабрытанія**
**Час дзеяння: канец XIX стагоддзя**




Фільм пра стваральніка «Пітэра Пэна» дапаможа не толькі пазнаёміцца з біяграфіяй Джэймса Бары, але і добра зразумець норавы Англіі XIX стагоддзя. «Чароўная краіна» — карціна пра ўзлёты і падзенні, пра складанасці

асабістага жыцця і іншыя перашкоды на шляху вялікага чалавека. Дарэчы, галоўнага героя іграе Джоні Дэп. Але не чакайце пазітыўнай, салодкай казкі. «Чароўная краіна» — гэта драма, наскрозь працятая сумам, з расповедам аб складаным жыццёвым выбары.

### 3. «Боні і Клайд»

**Год: 1967**
**Рэжысёр: Артур Пэн**
**Краіна: ЗША**
**Час дзеяння: 30-я гады XX стагоддзя**



Думаю, кожны чуў гісторыю закаханых, якія лупежылі банкі. Магчыма, камусьці гэта і здаецца рамантычным, але я да Боні і Клайда заўсёды ставілася вельмі скептычна. Аднак гэта ні кропелькі не датычыцца экранізацыі 1967 года. Карціна выдатна паказвае гарэзны дух Амерыкі 1930-х гадоў. Дзякуючы выдатным дэкарацыям мы можам добра адчуць атмасферу таго часу. Менавіта з гэтага фільма пачынаюць адлік сучаснага этапу ў гісторыі Галівуда.




### 4. «Пёрл Харбар»

**Год: 2001**
**Рэжысёр: Майкл Бэй**
**Краіна: ЗША**
**Час дзеяння: Другая сусветная вайна**

Думаю, ужо па назве вы здагадаліся, вакол якой падзеі разгортваецца дзеянне ў фільме. Але асноўнай тэмай стужкі я не хачу называць напад на ваенна-марскую базу ЗША ў снежні 1941 года. У цэнтры драмы нялёгкія лёсы герояў. Мы прывыклі ўспрымаць Другую сусветную вайну праз падзеі, звязаныя з СССР, але часам карысна зірнуць на тое, што адбывалася ў той час з іншымі краінамі. Там таксама былі адважныя юнакі і дзяўчаты. І свае трагедыі.

### 5. «Гульня ў імітацыю»

**Год: 2014**
**Рэжысёр: Мортэн Цільдум**
**Краіна: Вялікабрытанія, ЗША**
**Час дзеяння: Другая сусветная вайна**



Вайна — гэта час, калі краіны мераюцца не толькі ўзбраеннем, але і «мазгавым» патэнцыялам сваіх грамадзян. Гэта драма пра

брытанскага вучонага, які падчас Другой сусветнай вайны ўзламаў код стратэгічна важнай нямецкай шыфравальнай машыны «Энігма». Але фільм не пра тое, як навукоўца насілі на руках за яго прарыў, а пра зменлівасць лёсу і нечаканыя павароты. У галоўных ролях папулярныя акцёры: Бенедыкт Камбербэтч і Кіра Найтлі. Фільм атрымаў мноства ганаровых узнагарод і нават Оскар «За лепшы адаптаваны сцэнарый».

### 6. «Шпіёнскі мост»

**Год: 2015**
**Рэжысёр: Стывен Спілберг**
**Краіна: ЗША**
**Час дзеяння: канец 50-х — пачатак 60-х гадоў XX стагоддзя**




Халодная вайна — складаны стан, у якім апынуўся свет у сярэдзіне XX стагоддзя. Насельніцтва ЗША і СССР знаходзілася ў пастаянным страху, а краіны падзяліліся на два лагеры. Былі ў гэтага часу і свае героі: Джэймсу Донавану даручылі быць адвакатам савецкага мастака, якога падазравалі ў шпіянажы. Фільм распавядае пра чалавека гонару, адданага сваёй справе. Не баючыся стаць ворагам для народа, Донаван якасна выконвае свае абавязкі. Шчыра прызнаюся, «Шпіёнскі мост» — мой любімы фільм 2015-га.



### 7. «Прагулка»

**Год: 2015**
**Рэжысёр: Роберт Земекіс**
**Краіна: ЗША**
**Час дзеяння: другая палова XX стагоддзя**

Па-сапраўднаму шчаслівым можна стаць толькі спраўджваючы свае мары і дасягаючы мэтаў — вось галоўны пасыл фільма «Прагулка». Французскі канатаходзец усё жыццё марыў прайсці паміж будынкамі Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Ёрку. Фільм пра тое, як Філіп Пеці ідзе да сваёй мэты. Дзякуючы стужцы можна адчуць жыццё Нью-Ёрка XX стагоддзя і з сумам успомніць пра страчаны сімвал Амерыкі — вежы-блізняты.

*Яна Мусвідас*

# Свет Глухоўскай Касі

*Менавіта словам «свет» хочацца ў выпадку з гэтай пісьменніцай замяніць слова «творчасць». Тут у даліне сланечнікаў жывуць дзяўчынка-капрызуля і сапраўдны Чалавек, шчарбатая страха старой хаты абараняе ад страхаў маленькіх дзяўчатак, і, здаецца, дзе як не тут — пісьменніцкае шчасце: багацце штодзённай Незвычайнасці, прастора для неабмежаванай Фантазіі. Кася расказала, як бачыць новае ў звычайным, што адрознівае, на яе думку, вядомага таленавітага пісьменніка ад проста таленавітага і як змагацца з творчымі крызісамі.*



— Я з маленства прыдумляла казкі і расказвала іх усім. Распавядала бабулі падчас праполак агарода ці іншай працы, каб весялей завіхацца было. Расказвала экспромты ў нулявым класе на прадлёнках, каб аднакласнікі засыналі ў ціхую гадзіну. А першы запісаны твор быў пра лабірынты на крылах вераб'я. Недзе ў чацвёртым класе я пасярод заняткаў выйшла з кабінета, хацела пасумаваць каля акна. На карнізе за шклом сядзеў верабей, яго карычневыя крыльцы былі спрэс ва ўзорах, чорных, белых, шэрых арнаментах. Мне гэта падалося неверагодна прыгожым, выклікала захапленне. Безумоўна, у захапленні было шмат перажыванняў асабістых, напрыклад, абурэння, што вераб'ёў не лічаць прыгожымі птушкамі, што называюць іх гутаркі не песнямі, а цырыканнем, ціўканнем толькі. А ў іх жа такі цуд — лабірынт — на крылах! Першай чытачкай таго твора была школьны псіхолаг і арт-тэрапеўт, у чыёй тэатральнай студыі я займалася. А так звычайна ўсе творы давяраліся маме, тату і сяброўкам. Як і цяпер.

**— Калі і ў якіх абставінах ты пачала ўсведамляць сябе пісьменніцай, паэткай?**

— Напэўна, калі мы з Алінай Длатоўскай пачалі пісаць вялікія «кнігі», фэнтэзі. Гэта былі жудасныя з гледжання літаратурнасці спробы, але пачуццё «я пісьменнік» прысутнічала. Для мяне асабіста быць пісьменнікам — гэта адчуваць натхненне і ўвасабляць яго ў словах, пісьмова. Быць паэтам — тое самае, толькі ўжо не проста пісьмовая вербальная форма, а яшчэ вершаваная. Паняцця

графаманства не прызнаю. Хіба як псіхалагічную залежнасць ад пісьменніцтва, але так вялікая частка добрых пісьменнікаў, якія сублімуюць праз літаратурную творчасць, графаманы. Іншае пытанне, што лічыць добрымі, мастацкімі творамі, а што так, спробай пяра.

**— Ці ёсць у цябе абгрунтаванне для самой сябе, для чаго ты пішаш, што асабіста табе дае працэс стварэння?**

— Я хачу казаць, што сусвет розны, вельмі розны, але поўны прыгожага і цікавага, што яно ўсюды, нават там, дзе, падаецца, немагчыма чакаць. Пішу, бо натхняюся і не хачу хаваць у сабе, як у магільнай глебе, захапленне, натхненне, пачуцці, вобразы, ад якіх у галаве сусветы. Часам пішу, бо нешта моцна і балюча чапляе, але гэта чыстае рэагаванне на боль і негатыў, гэта як скінуць цяжкі ком гліны з сэрца, зляпіць з яго голема — але без падмурка тэхнікі напісання твор такі нават стаяць на нагах не здолее, без жывой вады натхнення не пойдзе, а без чароўнай пылку харaства (вобразаў, ідэй) ніколі не паляціць.

**— Якія творы (не толькі літаратуры) сталі этапнымі для твайго светапогляду?**

— Думаю, тут можна пералічваць шмат. Безумоўна, паэзія Цвятаевай. Безумоўна, проза і паэзія Караткевіча, паэзія Багдановіча, асабліва верш «Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы…». Кнігі пра лёсы Ван Гога «Прага жыцця» і Мікеланджэла «Пакуты і радасці» Ірвінга Стоўна. Кніга пра жыццё і каханне «Птушкі ў цярноўніку» Колін Макалаў. А яшчэ раней і на ўсё жыццё: Астрыд Ліндгрэн з яе творчасцю і асабліва персанаж Піпі Доўгая панчоха, якая дагэтуль адлюстроўвае маё ўнутранае дзіця і заўжды была эталонам. Робін Гуд (я з трох гадоў збірала ўсе творы пра яго, усе Яго выявы, гуляла ў Робін Гуда паўсюдна). Савецкі мульт «Брэменскія музыкі», дыснееўскі мульт пра Пакахонтас, фільм «Амелі». Таксама вялікае месца ў жыцці займаюць сусветы Роўлінг, Толкіена і коміксы пра «Людзей Х». Мастацтва я не пералічу, бо я люблю выяўленчую творчасць моцна і ў розных праявах: Да Вінчы, Шышкін, Рэнуар, Шагал, Ван Гог…

**— Ёсць таленавітыя прызнаныя маладыя пісьменнікі, а ёсць проста таленавітыя. Як думаеш, у чым прычына прызнанасці адных і невядомасці іншых?**

— Лічу, тут справа ў піяры і міжчалавечых зносінах. Сапраўды таленавітыя творы, калі не будуць знішчаны, усё адно аднойчы знойдуць шлях да людзей, але гэта можа быць праз дзесяцігоддзі і пазней, нават пасля смерці аўтара, што гісторыя не раз паказвала. А прызнаюць хутка як правіла тых, хто своечасова, элегантна і дастаткова яскрава падае свае творы публіцы, падабаецца ёй сам. Тут вельмі шмат сацыяльнай псіхалогіі. Напэўна, можна вывесці нейкія схемы, правілы дасягнення прызнання, але яны будуць арыентаваны на сферычную папулярнасць сферычных пісьменнікаў у вакууме. Асноўны мой сакрэт, калі гэта сакрэт, — здзіўляцца і натхняцца. І не саромецца паказваць творы іншым, прапаноўваць у друк. І, канешне, чытаць шмат чужой натхняльнай творчасці.

**— Колькі, на тваю думку, у пісьменніцтве адсоткаў таленту, а колькі — працы над ім?**

— 20 на 80! У любой прапорцыі. Як у правіле Парэта. Калі чалавек на 80 адсоткаў таленавіты, яго талент будзе выпіраць праз усе шчыліны, яго толькі дагледзець і прычэсваць, каб не заблытаўся космамі. А калі таленту не вельмі шмат, караткашэрсны такі чалавек, — руплівая праца можа дапамагчы нарасціць усё акуратна і прыгожа.

**— Калі чытаеш твае творы, з'яўляецца ўражанне, што асобе з такім неабмежаваным унутраным сусветам нават незнаёмае паняцце творчага крызісу. Ці так гэта на самай справе?**

— Вох, насамрэч, знаёмае і з розных бакоў. І калі не пішацца нічога, і калі усё напісанае падаецца благім, нявартым, абясцэньваецца, і калі насамрэч напісана шмат, а што з гэтым рабіць і каму яно трэба не ведаю. Крызісы — гэта нармальная з'ява, важна іх перажываць без вялікіх страт, а лепш з так званым посткрызісным ростам. Шляхоў барацьбы шмат. Часам гэта проста адпачынак, дазволенае гультайства. У выпадку крызісу ад выматанасці, стомы. Часам пошук новых крыніц натхнення. Ад нудоты. Часам гутарка з сябрамі і роднымі «за жыццё», пра сэнс творчасці агулам, маёй творчасці і г.д. Ад усіх трывог і журбы. Цяпер найлепшая стратэгія — стварэнне казкі вакол сябе. Спрабую бачыць свет чароўным і рабіць яго такім.

***Кацярына Захарэвіч***

Конкурс

# Туркменістан вачыма беларускіх дзяцей

Пасольства Туркменістана ў Рэспубліцы Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», рэдакцыя часопіса «Бярозка» абвяшчаюць творчы конкурс, прысвечаны 25-годдзю Незалежнасці Туркменістана.

Конкурс праводзіцца ў наступных намінацыях:

- *малюнкі* (тэхніка свабодная, памер 210х297, А-4);
- *проза* (апавяданне, казка, прытча);
- *паэзія*.

Ад аднаго ўдзельніка прымаецца не больш чым 2 работы.

Удзельнікамі могуць быць дзеці з Рэспублікі Беларусь ва ўзросце 7—15 гадоў.

Работы прымаюцца да 28 верасня 2016 года асабістай дастаўкай або поштай на адрас РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» (220013, г. Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10а, 5 паверх, каб. 502) з пазнакай «Конкурс дзіцячай творчасці».

Да работы прыкладаецца форма на ўдзел у конкурсе з указаннем прозвішча, імя і імя па бацьку, адраса, кантактнага тэлефона і апісання конкурснай работы.

**Больш дакладная інфармацыя па тэлефоне 8 017 284-66-73, 8 029 349-29-65 Вікторыя Лукашутэ.**

# Папялушка NEW

Аўтар рубрыкі
Ліна Багданава




Прыходзіць у школу па суботах Яна любіла. Бо можна было пазаймацца на трэнажорах, памаляваць, прайсці некалькі тэстаў на камп’ютары, паўдзельнічаць у спартландыі, схадзіць на экскурсію або ў боўлінг. Ці проста паразмаўляць. Яна наогул актыўная. Два гады была старастай класа. Наведвала гурток лепкі і студыю сучаснага танца. Удзельнічала ў канцэртах і спаборніцтвах. Заўжды штосьці прапаноўвала і не баялася браць адказнасць за рэалізацыю сваіх ідэй.

У сёмым класе да звычайных суботніх забаў далучылася дыскатэка. Яна ўзрадавалася, бо любіла танчыць. І ў студыі, і на канцэртах, і дома перад люстэркам. А тут — вясёлая, добра знаёмая кампанія, прыкольны дыджэй, цікавыя конкурсы. Адна бяда — са строямі ў Яны напружана. Джынсы, некалькі світараў і шэрая трыкатажная сукенка. Безумоўна, на гэтым Янін гардэроб не заканчваўся, але не танчыць жа ў школьнай форме! За пяць дзён тыдня яна надакучвае да чорцікаў. Не, у суботу неабходна апрануць штосьці асаблівае. Тым больш на дыскатэку.

— Бо ніякі хлопец у мой бок не гляне, — пераконвала Яна сваё адлюстраванне ў люстэрку. — Буду сумаваць у куточку і сяброўкам зайздросціць.

На першыя дыскатэкі ўбораў хапіла. А далей…

— Ма, мне няма чаго апрануць, — жалілася Яна. — У сукенцы я ўжо два разы хадзіла, у світарах таксама. Дзяўчаты кожную дыскатэку ў новым прыкідзе, а я…

— Усё роўна ты ў мяне самая прыгожая, — усміхнулася маці і пацалавала дачку ў лоб. — Сама паглядзі.



І пакруціла дачку перад люстэркам.

— І танчыш лепш за ўсіх, не дарма тры гады на сучасныя танцы хадзіла. А вось з абноўкамі пачакаць трэба. З грашыма цяпер цяжка. Лядоўню ў крэдыт узялі, Ромку куртка новая патрэбна — са старой ён безнадзейна вырас. Вось вернецца з камандзіроўкі тата…

Ну канешне! Вернецца тата, з'явяцца новыя неадкладныя праблемы: на адпачынак трэба назбіраць, на рамонт і загарадную паездку адкласці. А ты тут сядзі і пакутуй.

Пакутаваць не хацелася. Яна спрабавала мяняцца з сяброўкамі — задавальнення хапала на дзве суботы. Неяк няўтульна ў чужых сукенках сябе адчуваеш. Здаецца, што ўсе вакол глядзяць і асуджаюць. Да таго ж, узятую «напракат» рэч баішся сапсаваць.

А тут яшчэ і каханне… У іх класе з'явіўся новенькі — Кастусь. Сур'ёзны, самастойны, прыгожы, высокі і добра танчыць.

— Кажуць, — узнімалі вочы да столі пляткаркі класа, — Кастусь наш на бальныя танцы з трох гадоў ходзіць.

— Адразу бачна прафесіянала: мядляк з ім у пары — райская ўцеха, не тое, што з некаторымі. Адным словам — МАЭСТРА!

У катэгорыю «некаторыя» трапілі астатнія хлопцы класа. Нават у паралелі не знайшлося ніводнага танцора, якога можна параўнаць з Кастусём. Дзяўчаты пачалі весці запіс на танец з «маэстра». Узяліся сапернічаць у прычосках і строях, стваралі розныя вобразы з дапамогай касметыкі.

А Яна засталася са сваімі зацікаўленасцямі. З яе магчымасцямі не вельмі пашыкуеш. А старой сукенкай не тое што прынца — звычайнага троечніка не заваюеш. Хлопцы пайшлі пераборлівыя.

Яна адчувала сябе Папялушкай. Вось бы ў казку! Можа, знайшлася б там і на яе праблемы якая-небудзь фея. Падарыла б ёй цудоўную бальную сукенку, новенькія туфлікі, а разам з імі прычоску з макіяжам і ўсе неабходныя ўпрыгожванні.

— Адчуйце розніцу: я б ад Кастуся нікуды не збегла. Зачаравала б і прывабіла да сябе, — хацелася прамовіць Яне сваім канкурэнткам. І дзяўчына цяжка ўздыхнула: гэта ў казцы ўсё проста, а тут — ні феі, ні перспектыў.

І з маці не паспрачаешся. Яна не маленькая, разумее, што інтарэсы сям'і больш важныя за асабістыя. Атрымліваецца, што новай сукенкі ёй не ўбачыць да наступнага года. Гэта як мінімум. І з Кастусём праляцела, і з усім астатнім таксама. Што тут будзеш рабіць?



***Бабуля з пруткамі:***

— Ой, дзяўчо, нешта рана ты засумавала! Якія твае гады! Будуць у цябе кавалеры. Павер, будуць! Колькі ж табе? Прыкладна трынаццаць? Дзіцячая закаханасць, такіх табе яшчэ шмат перажыць давядзецца. Не бяры да галавы! Калі хлопец сур'ёзны, ён на прыгожае ўбранне глядзець не стане. Быў бы чалавек добры. А калі сукенка падыходзіць, тады яна і сёння добра глядзіцца, і заўтра. Ведаеш, калі я была маладая, адну сукенку на некалькі гадоў шылі. Адна шафа ў доме была, на ўсю сям'ю. У мяне сукенка, у матулі дзве, у таты гарнітур. І каханню гэта не перашкаджала. Таму танцуй сабе на здароўе і памятай: шчаслівая ўсмешка ўпрыгожвае значна лепш, чым новая сукенка.

***Сімпатулька:***

— Як я цябе разумею! Паўгода без абновак — гэта ж звар'яцець можна! Катастрофа! Так, жыццё — цяжкая рэч. У мяне падобнае таксама здаралася. І ведаеш, што я заўважыла? Сціплае ўбранне на дыскатэцы — спакой і згода ў жаночым лагеры. Усе табе спачуваюць, падтрымліваюць, прапануюць дапамогу. Калі хочаш умацаваць сяброўства з дзяўчатамі — сціхні наконт адзення. І яшчэ адноназіранне: новая сукенка на паводзіны хлопцаў уздзейнічае па-рознаму. Бывае, увесь вечар у абноўцы прасядзіш у куточку. А іншым разам на скорую руку збіраешся, а поспех — як ніколі. Навука пакуль што не вызначыла, чым можна здзівіць хлопца на сто адсоткаў. Пераборлівыя яны! Хоць, цалкам магчыма, мы самі іх разбэсцілі. Сама ж успамінаеш пра дзявочыя хітрыкі: сукенкі, прычоскі, касметыка. За знешняй бліскучасцю бывае і чалавека не заўважыш. Асабіста я цягнуся да гармоніі.

***Прасунуты старшакласнік:***

— Знайшла, аб чым сумаваць! Калі хлопец востра рэагуе на знешнюю мішуру, тады ён чалавек павярхоўны. Табе такія падабаюцца? Тады пазыч касцюмчык у Сімпатулькі. Але памятай: канкурэнткі драмаць не будуць. Вось і атрымаецца ў вас адзежны бум. Не хвалюешся, што за ўсім гэтым Кастусь не адрозніць цябе ад Машы, Наташы, Любы? Па вялікім рахунку, не такія ўжо мы і ласыя на макіяжы і строі. Мы ўсё бачым і ўсё разумеем. Заставайся сабою. Павер, толькі тады знойдзецца той, хто заўважыць твае чалавечыя якасці. І выпадзе табе шчасце.

***Вопытны псіхолаг:***

— Я буду сёння тваёй старэйшай сяброўкай, а не псіхолагам. І буду казаць не пра высокія матэрыі, а пра твой гардэроб. Каб быць у трэндзе, зусім не абавязкова купляць адзежу на кожны выпадак. Ты падыдзі да праблемы з іншага боку: праяві фантазію. Нездарма стылісты аддаюць перавагу маленькай чорнай (шэрай, блакітнай — колер не мае значэння) сукенцы. Лаканічны крой і колер, які не кідаецца ў вочы, дазваляюць эксперыментаваць з упрыгожваннямі. Сёння адзін яркі шалік, заўтра — іншы, пазаўтра — біжутэрыя, брошка, пас — кожны раз ты выглядаеш па-рознаму. І яшчэ варыянт: распачні рэвалюцыю ў сваім гардэробе. Як сказаў адзін знакаміты фацэт: «З адной міні-спадніцы заўсёды можна зрабіць дзве максі-кепкі». Асмельвайся! Акрамя новых эксклюзіўных убораў ты атрымаеш шмат станоўчых эмоцый. Творчасць — ні з чым не параўнальная прыемнасць.

А пра хлопцаў мы яшчэ паразмаўляем. Іншым разам. Удачы, Папялушка!

# Гэты свет сапраўды нядрэнны...




*«Гэты свет не такі ўжо дрэнны, пакуль у ім ёсць кава», — піша ў адной са сваіх кніг сучасная амерыканская пісьменніца Касандра Клэр. Я не адношу сябе да аматараў гэтага напою і наогул піла каву некалькі разоў за сваё жыццё. Але ведаю, што многія мае сябры сышліся б з пісьменніцай у меркаванні. Некаторыя з іх нават не ўяўляюць жыцця без молатай. І хорам скандзіруюць: «Раніца пачынаецца з кавы». Я вырашыла праверыць на сабе ўсе прывабнасці такога ранку і ў адзін з выхадных адправілася ў кавярню.*





Пры ўваходзе ў памяшканне мяне сустракаюць ветлівая ўсмешка і прыемнае «Добрай раніцы!» Гэта Улад. Улад — барыста. Дзіўнае слова, якое не мае ніякага дачынення да бармена. Давайце разбірацца.

**Бармен** — гэта супрацоўнік бара, спецыяльна навучаны мастацтву прыгатавання розных кактэйляў і напояў на аснове алкаголю.

**Барыста** — спецыяліст па гатаванні кавы. Або па-іншаму: чалавек, які ведае пра каву ўсё.

На самай справе сувязь гэтыя прафесіі ўсё ж маюць: спачатку барыста называлі людзей, якія сумяшчалі абавязкі барменаў і аператараў кавамашын. Але дзякуючы папулярнасці кавы паступова з'явіліся барыста, якія спецыялізуюцца выключна на падрыхтоўцы эспрэса і яго вытворных (латэ, капучына, макачына і іншых кававых напояў). Распаўсюджванне па свеце гэтай прафесіі пачалося з Амерыкі.

Але адной тэорыяй сыты не будзеш. Пяройдзем да справы. Латэ, макіата, мока, глясэ, амерыкана, рамана! Гучыць загадкава і смачна. «Калі не ведаеш з чаго пачаць, пачні з пачатку!» — падказвае мне ўнутраны голас. Меню ўзначальвае эспрэса — аснова ўсіх асноў. З яго і пачнём.

«Любы барыста павінен умець гатаваць гэты базавы напой», — расказвае Улад. Потым дае мне зразумець: яго прыгатаванне — працэс не з простых і праходзіць у некалькі этапаў. Уладзіслаў бярэ ў рукі нейкае прыстасаванне, праціраe сурвэткай і кажа: «Гэта холдар». Падносіць холдар да кавамолкі і напаўняе яго пэўнай дозай молатай кавы. Затым утрамбоўвае яе таўкачыкам. Усё вельмі закручана! Холдар устаўляецца ў кавамашыну, да яе ж падносяцца кубкі. Эспрэса льецца! «Як толькі струменьчык мяняе свой колер са светла-зялёнага на карычневы, знікаюць карычневыя пырсканні — працэс экстракцыі скончаны», — вырашыў закідаць мяне тэрмінамі наш герой. Пяць хвілін — і на стойцы апынаецца вынік дзеяння.

Ад гатавання да ўжывання.

— Трэба сёрбнуць, — кажа Уладзіслаў. Такім чынам мы запускаем кісларод — і смак становіцца больш насычаным. Неабходна ацэньваць горыч, слодыч і кіслінку. Гэта тры асноўныя складнікі смаку, якія прысутнічаюць у любым эспрэса. Мне ўдалося адчуць толькі першы. Вельмі горка!

Як барыста выпівае ў дзень каля дваццаці кубкаў кавы? А рыхтуе каля 300! Для тых, каму гэтага мала, праводзяцца спаборніцтвы і чэмпіянаты. Так, у 2013 годзе ў Мінску прайшоў Barista Cup, а ў 2016-м — чэмпіянат барыста Coffee Fest. Пераможца другога спаборніцтва прадстаўляе Беларусь на World Barista Championship.

Навучанне прафесіі можна прайсці на спецыялізаваных курсах або непасрэдна на працоўным месцы.

***



Увечары таго ж дня я зазірнула ў бар, каб канчаткова расставіць кропкі над «і» ў адносінах бармен — барыста. Там мяне таксама сустрэлі ветлівая ўсмешка і прыемнае «Добры вечар». Гэта Дзіма. Дзіма — бармен.

Яго праца праходзіць у пастаянным шуме і сярод вялікай колькасці людзей. Да таго ж і ў начны час. Гэта можа быць як плюсам (для тых, хто вучыцца ўдзень), так і мінусам. Бармену неабходна добрая памяць, каардынацыя, вакамер і ўвага. Ён трымае ў галаве велізарную колькасць рэцэптаў кактэйляў і павінен ведаць тэхніку іх прыгатавання. Яго праца патрабуе таксама фізічнай вынослівасці: дзесяць, а то і больш гадзін на нагах. Таму традыцыйна лічыцца, што бармен — мужчынская прафесія. Для якой не абавязкова мець профільную адукацыю. Але ў выпадку, калі чалавек настроены на кар'ерны рост, спатрэбяцца дадатковыя веды. Набыць іх дапамогуць прафесійныя курсы, якія рыхтуюць барменаў. У Мінску такіх шмат! Можна выбраць курсы з магчымасцю стажыроўкі або нават працаўладкаваннем.

Аднак стаянне на нагах і прыгатаванне кактэйляў — гэта не ўсе абавязкі бармена. Праседзеўшы за стойкай паўтары гадзіны, я б Дзмітрыю яшчэ некалькі прафесій «дапісала»:

- ***Шоўмен.*** Часам бармены паказваюць сапраўднае шоу, так званы «фрыстайл», які ўключае ў сябе жангліраванне бутэлькамі і шклянкамі пры вырабе напояў (часам гэта робіцца нават з выкарыстаннем агню).
- ***Псіхолаг.*** Менавіта бармену раскрываюць душу кліенты, скардзяцца на жыццё або «дзеляцца» кепскім настроем.
- ***Афіцыянт.*** Ён прымае заказы ад наведвальнікаў, абслугоўвае і кансультуе іх па пытаннях заказу страў і напояў.
- ***Касір.*** Разлічвае наведвальнікаў.
- ***Вынаходнік.*** Дзмітрый часта сам складае кактэйлі і прапануе кліентам пакаштаваць іх і выказаць меркаванне. Што датычыцца яго ўласных пераваг, адказвае: «Люблю заварваць хрэн з малінай. Смачна».
- ***Барыста.*** Так-так. Дзіма мне і гарбату прапаноўваў заварыць, і каву.

Рэзюмую свой дзень перафразаванай думкай Касандры Клэр: «Гэты свет не такі ўжо і дрэнны, пакуль у ім ёсць тыя, хто гатуе каву».

***Марына Шантыр***

# Пісьменнасць малюнкамі










**У** апошнія дзесяцігоддзі з’явілася шмат надпісаў, у якіх адна або некалькі літар, а часам і цэлае слова замененыя малюнкам. Асноўнымі відамі нялітарнай пісьменнасці, або пісьменнасці, камбінаванай з літарамі, у наш час з’яўляюцца *піктаграфія, ідэаграфія, лагатып, Zlango, піктаграфіксацыя*. Разгледзім кожны з іх падрабязна.

Нялітарная пісьменнасць мае даўнюю гісторыю. Спосаб перадачы вобразаў, уражанняў, падзей, думак з дапамогай малюнка называецца *піктаграфіяй* (*пікта* — малюнак, *графа* — пісьменнасць), а сам малюнак — *піктаграмай* (*грама* — літара, запіс). Самыя старажытныя піктаграмы пра войны, паляванне, перасяленні былі створаны нашымі далёкімі продкамі на скалах і сценах пячор. Цяпер піктаграфіяй як асноўным відам пісьменнасці карыстаецца толькі народ, які жыве ў перадгор’ях Тыбета.

Сучасная піктаграма схематычна адлюстроўвае апазнавальныя рысы аб’екта, прадмета або з’явы (напрыклад, дарожныя знакі, чырвоны крыж і інш.) Такая пісьменнасць, на думку аўтараў «Літаратурнай энцыклапедыі» Р. Шора і Н. Карынскага, можа быць зразумелая «людзьмі, якія гавораць на розных мовах».

Яшчэ адна разнавіднасць нялітарнай пісьменнасці — *ідэаграфія* (*ідэя* — паняцце) — асаблівая пісьменнасць знакамі, якія пазначаюць пэўную ідэю. Гэта адрознівае яе ад піктаграфіі, дзе значэнне перадаецца малюнкамі канкрэтных



прадметаў. З'яўленне такой пісьменнасці звязана з развіццём мыслення і гаворкі. Цяпер ідэаграмы выкарыстоўваюцца ў асноўным у выглядзе іерогліфаў. Іх ужывалі ў цывілізацыях Старажытнага Егіпта і Кітая, а ў азіяцкіх краінах выкарыстоўваюць і ў наш час.

*Лагатып* (*логас* — слова, *тыпас* — адбітак) — гэта розныя малюнкі, у асноўным таварных знакаў, у выглядзе стылізаваных літар і/або ідэаграмы. Лагатып павінен вылучыць фірму і яе прадукцыю сярод падобных, прыцягнуць увагу пакупніка або інвестара. Пра гэта добра ведаюць маркетолагі і дызайнеры, якія іх ствараюць, таму і выкарыстоўваюць розныя мудрагелістыя прыёмы. Так, напрыклад, літара *М* лагатыпу фірмы «Марка» выканана ў выглядзе чаравічка (менавіта іх выпускае фірма); Калінкавіцкі мэблевы камбінат сваю абрэвіятуру КМК стварыў як шэзлонг, на якім утульна размясціўся чалавечак. Маўляў, купляйце нашы зручныя канапы і адпачывайце!




Яшчэ адзін від сучаснай піктаграфічнай пісьменнасці называецца *Zlango*: **(,,)(,,) — кацяня; __"""""""""""" — кава; (O_O) — моцна здзіўлены** і інш. Ён створаны для карыстальнікаў SMS і ўяўляе сабой знакі прыпынку ў розных камбінацыях. Гэта своеасаблівы пераклад смайлаў на алфавіт клавіятуры гаджэта.

*Піктаграфіксацыя* — самы сучасны спосаб нялітарнай пісьменнасці, пры якім літары замяняюцца малюначкам — *графіксам*. *Графікс* (*графа* — пішу, *фікс* — прымацаваны) — малюнак, які замяняе літару. Такія словы В. А. Лазарава назвала *ідэалексемамі* (*ідэя* — паняцце, *лексема* — слова).



Мы вырашылі даследаваць і параўнаць, якія малюнкі часцей выкарыстоўваюцца ў сучаснай піктаграфіі і якія — пры піктаграфіксацыі. Для аналізу піктаграм выбралі дарожныя знакі (усяго — 305), высветлілі: піктаграмы сустракаюцца 183 разы, у тым ліку — аўтамабіль — 51, дарога — 38, людзі — 16, аўтобус, тралейбус — 11. Нярэдкія і ідэаграмы, напрыклад, стрэлкі (160).









Мы сабралі некалькі соцень ідэалексем і класіфікавалі іх з пункту гледжання асноўных знакаў/эмблем, выдзеленых В. А. Лазаравай:

- *старажытныя сімвалы*: сонца, месяц, зорка, Зямля, дрэва, вада;
- *штучныя збудаванні*, у т. л. — *жыллё чалавека*; гэтую групу мы дапоўнілі і падзялілі на дзве:
- *жылле і яго частка;*
- *прадметы побыту*;
- *сімволіка ўлады* (карона, ордэны);
- *рэлігійныя сімвалы* (крыж, паўмесяц);
- *спартыўная сімволіка*;
- *сімвалы гуку*;
- *сімволіка флоры*;
- *сімволіка фаўны*;
- *міжнародныя інфармацыйныя сімвалы;*
- *смайлы*;
- *чалавек*.






Часцей за ўсё для піктаграфіксацыі выкарыстоўваюцца прадметы і вобразы прыроды і чалавека. Мы правялі апытанне сярод шасцікласнікаў і высветлілі, што словы з малюнкамі запамінаюцца намнога лягчэй, чым без іх. Чаму гэта адбываецца? Справа ў тым, што шэсць-сем чалавек з дзесяці — візуалы, г. зн. успрымаюць інфармацыю ў асноўным праз зрок. Малюнак не залежыць ад тэхнікі чытання, ад ведання мовы, менш, чым літары, залежыць ад вастрыні зроку. Гэта разумелі і стваральнікі дарожных знакаў, разумеюць і тыя, хто прыдумляе рэкламныя назвы і стварае лагатыпы.

Апытаўшы сваіх аднагодкаў, юная аўтарка гэтага даследавання прыйшла да высновы, што такая пісьменнасць неабходная, бо яна дазваляе хутчэй зразумець сэнс той ці іншай назвы і запомніць яго. Можна ствараць самому ідэалексемы для запамінання «памылканебяспечных» месцаў у слоўнікавых словах.

Калі вам неабходна заказаць дублікат ключоў, вы хутчэй успомніце, дзе размешчаная майстэрня, калі на яе шыльдзе літара *Л* будзе намаляваная як звязак ключоў. Патрэбен посуд — вы ўспамінаеце шыльду з вывай літар у выглядзе рондаля, патэльні, чарачак і талерак. Хочаце купіць натуральны сок, а не нектар — успамінаеце «На100ящий». Маркетолагі добра гэта разумеюць, таму актыўна выкарыстоўваюць.

***Віталіна Віннік, 7 «А» клас,***
***Іна Віннік, настаўнік-метадыст,***
***Сноўская СШ, Нясвіжскі раён***

У выпуску:



Я – МАСТАК

№ 8

Я вучуся ў беларусаў

# Пачынаў з таго, што быў горшым

## Глеб Сідарэнка




Глеба Сідарэнку называюць вельмі маладым і вельмі таленавітым графікам. Сам мастак з падобнай ацэнкай не згодны. Хоць яму дваццаць тры гады, а за плячыма ўжо дзве персанальныя выставы, ён лічыць, што знаходзіцца ў самым пачатку шляху творцы.

— Мастак павінен пастаянна расці, змяняцца, развівацца. Гэтым няспынным рухам мне і падабаецца наша прафесія. Вучоба, прагляды, выставы, конкурсы... Я не магу сказаць, што ўсяго дамогся сам. Мае дасягненні — заслуга бацькоў. Менавіта яны ўнеслі вялікі ўклад у тое, як склалася маё жыццё.

Глеб Сідарэнка нарадзіўся ў сям'і мастакоў-графікаў. Як згадвае малады чалавек, бацькі яго прайшлі цікавы творчы шлях, пра які гавораць толькі з захапленнем. Напэўна, было б дзіўна, калі б Глеб стаў матэматыкам або фізікам.

Маці і бацька працуюць у брэсцкай мастацкай школе № 10, дзе выкладаюць малюнак, жывапіс і кампазіцыю. Узялі сына вучыцца да сябе. Яны часта дапазна заставаліся працаваць у маленькіх школьных майстэрнях. Разам з імі ў гэтых мастацкіх «бакоўках» заставаўся і Глеб. Хлопчык пускаў цэлыя скрыні гуашы на сваю дзіцячую творчасць. Маляваць яму падабалася. Але мастацтва спачатку зусім не атрымлівалася.

— Я пачынаў з таго, што быў горшым сярод аднагодкаў. Усё змянілася ў пятым класе. У маім раскладзе з'явіліся прадметы малюнак, жывапіс, кампазіцыя, якія выкладалі бацькі. Я быў сынам мастакоў, а маляваць не ўмеў. Таму патуранняў мне не давалі. Наадварот, ганялі больш за ўсіх.

Аднойчы бацька паставіў сына перад выбарам: мастацтва ці не мастацтва. Глебу давялося зрабіць сур'ёзны выбар — і ён пачаў маляваць. Хлопчык заставаўся



*Аўтапартрэт, 2015*



*Чазенія, 2015*

працаваць пасля заняткаў. Бацька трэніраваў яго, падказваў, накіроўваў. Наогул, бацькі заўсёды былі побач. Праз працу, праз бясконцыя паўтарэнні і вялікую колькасць работ Глеб пачаў маляваць лепш. Яго ўзровень як мастака падцягнуўся, а яшчэ — прачнуўся «спартыўны інтарэс».

Пасля дзявятага класа было вырашана паступаць у мінскую гімназію мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка. На папярэдні прагляд Глеб прывёз столькі работ, што іх давялося раскладваць у асобнай аўдыторыі. Выкладчыка гімназіі юны мастак зацікавіў — і наступным разам хлопец прыехаў у Мінск паступаць. Малюнак, жывапіс і кампазіцыю давялося здаць за тры дні без перапынкаў на адпачынак. А потым адразу здаў матэматыку і беларускую мову. Хоць Глеб і не чакаў падобнага экзаменацыйнага тэмпу, ён не спалохаўся — і паступіў.

Бацькі вельмі ганарыліся сынам, але, як аказалася, адпускаць яго не збіраліся. Не былі гатовыя. Глеб добра запомніў, як моцна перажывалі мама з татам, як літаральна не спалі начамі... Але ўсё-такі любы сын адправіўся вучыцца ў Мінск.

— Першы час вучоба ў гімназіі была для мяне піянерскім лагерам! Неверагодная свабода, магчымасць да вечара заставацца ў майстэрнях, пераход да алею, грандыёзныя пастаноўкі, нацюрморты і гіпсавыя галовы — я адчуў сябе сапраўдным мастаком. У нас была вельмі добрая група, была добрая канкурэнцыя. А яшчэ былі выдатныя выкладчыкі. Дзякуй вялікі Галіне Сяргееўне Хінка-Янушкевіч. Яна ўмела зарадзіць настроем і падзяліцца сваім каласальным досведам. Шчыра сказаць, менавіта яна агранiла мяне, як алмаз. Без яе я не паступіў бы ў каледж імя Ахрэмчыка.

У каледжы групу Глеба Сідарэнкі ўзяў яшчэ адзін надзвычайны педагог — Юрый Віктаравіч Пеўнеў. Як апісвае яго малады мастак, гэта чалавек, у якога ніколі не канчаюцца ідэі, які выпраменьвае неверагодную энергію сам і ніколі не дае студэнтам расслабіцца. Ён навучыў думаць, шукаць незвычайныя рашэнні, эксперыментаваць.

— З гэтым таленавітым чалавекам звязаны ў мяне цікавы ўспамін. Ужо месяц я пісаў палатно алеем. А тут падыходзіць выкладчык і кажа, што работы мае ідэнтычныя, а значыць нецікавыя. Што рабіць? На маіх вачах Юрый Віктаравіч разводзіць фарбу і... вылівае яе на маю работу! Фарба льецца, а мне становіцца кепска ў прамым сэнсе слова. Ён жа з усмешкай пачынае маляваць і робіць твор неверагодна суцэльным і скончаным. Тады я зразумеў, што эксперымент — гэта добра.

Пасля трох незабыўных гадоў вучобы ў каледжы Глеб Сідарэнка становіцца студэнтам Беларускай акадэміі мастацтваў. З сёмага класа малады чалавек ведаў, што хоча паступаць менавіта на графіку. І яго жаданне, гэтая яго сумесная з бацькамі грандыёзная задума здзейснілася. Вучоба ў Акадэміі аказалася іншай, ужо зусім дарослай справай. Калі не расслабляцца, працаваць і ўсім цікавіцца, тады любыя дзверы будуць адчынены. Выкладчыкі дапамогуць і парадай, і матэрыяламі. Толькі працуй, спрабуй новыя тэхнікі, імкніся наперад.

Сёння творы Глеба ідуць ад канкрэтных пастановак. Амаль усе выставачныя працы графіка — гэта і ёсць яго вучоба, рэчы, створаныя ў рамках акадэмічнай праграмы.

— Якія тэмы задавалі, тое і рабіў. Напрыклад, ілюстрацыі да кнігі «Чазенія» Караткевіча або малюнкі да «Беларускіх прымавак і прыказак». Калі мне стала нецікава працаваць над фармальнай кампазіцыяй з яе абсалютна плоскаснымі плямамі, я захацеў зрабіць серыю работ на гістарычную тэму. Маляваў Радзівілаў, Мірскі і Нясвіжскі замкі, звяртаўся да розных легенд і паданняў.



*Хаос, 2015*



*Калектыўны розум, 2016*

Апошнім часам Глеб Сідарэнка захапіўся сюррэалізмам. Мастаку падабаецца, што ў гэтым стылі няма ні пачатку, ні канца. Можна рабіць усё, што ў галаву прыйдзе. Малады чалавек працуе таксама над пошукам новых фактур, новых кампазіцыйных структур, новых вобразаў. Стараецца сумясціць пастаноўкі і кампазіцыі.

— Сучаснае беларускае мастацтва моцна змяняецца. Гэта іншае мастацтва, не такое, якім я прывык яго бачыць. Я вырас на кнігах Селешчука, Тоўсціка, Альшэўскага, Савіча, на ілюстрацыях Славука. Мне падабаецца глядзець на класікаў: разумееш, адкуль што бярэцца. З задавальненнем хаджу ў Палац мастацтваў і Нацыянальны мастацкі музей. Наведваць мастацкія выставы трэба. Гэта цікава — бачыць, як вырашае канкрэтную задачу іншы майстар. Любому мастаку трэба на нешта абапірацца. Калі няма нагледжанасці, у галаве пуста.

У будучым таленавіты графік бачыць для сябе шмат шляхоў прафесійнай рэалізацыі. Можна працаваць на мастацкія салоны, можна ладзіць выставы, ствараць кніжныя ілюстрацыі, маляваць архітэктуру, сукенкі ці вобразы для мульцікаў. А можна сысці ў паліграфію або індустрыю кіно. Было б жаданне. Пакуль Глеб не ведае, што наперадзе.

— Напэўна, я б не адмовіўся выкладаць. Хацелася б займацца графікай далей. Як мастаку, мне яшчэ расці і расці. Гэтым і добрая наша прафесія. Пакуль ведаю дакладна толькі адно: з мастацтва я не пайду. Ды і куды ісці, я ж больш нічога не ўмею. У мяне ўжо склад розуму, як у мастака. Я ні пра што не шкадую. Адчуваю, што знаходжуся там, дзе і павінен знаходзіцца.

***Анастасія Сасноўская***

# Як стварыць беларускі комікс

## Інструкцыя

Тэорыя гэтай цікавай справы друкуецца ў папярэднім нумары. Тут — практыка.

### Этап 1. Ідэя

Наш комікс разлічаны на дзяцей. У ім мы збіраемся максімальна проста расказаць пра тое, што такое хлусня і паклёп, і як бывае за іх сорамна перад самымі блізкімі.

У якасці сюжэту мы вырашылі ўзяць верш Васіля Віткі «Каця і Коця»:

Плача коця на кухні,
Ад слёз вочкі папухлі.
— Што з табою, мой каток,
Забалеў мо жываток?
— Мяў, — сказаў варкоцік, —
Не баліць жывоцік.
У мяне душа баліць —
Як цяпер на свеце жыць?
Як мне жыць у хаце,
Калі хлусіць Каця:
Смятану злізала —
На мяне сказала.

Запісваем гісторыю ў максімальна простым варыянце, каб убачыць галоўныя павароты сюжэту:

*На кухні плача коцік. Каця пытаецца ў кацяняці, што з ім здарылася. Коцік адказвае, што яму дрэнна, і распавядае, што вінаватая Каця.*

Падзелім кавалкі тэксту (па сэнсе) на квадраты, у якіх потым будзем маляваць карцінкі:

**1.** Кухня, коцік плача (без рэплікі);

**2.** З'яўляецца Каця, пытаецца, што з катом (з рэплікай + частка адказу коціка);

**3.** Коцік на пярэднім плане (без дэталяў кухні) расказвае, чаму яму дрэнна (з рэплікай — рытарычным пытаннем);

**4**. Коцік унізе карцінкі, асноўная карцінка — яго думкі (Каця есць смятану) і рэпліка пра тое, што Каця хлусіць;

**5.** Проста карцінка, аформленая як думкі, дзе Каця скардзіцца на катка маме (мы вырашылі аформіць частку дзеянняў у выглядзе ўспамінаў катка);

**6.** Каця (вінаваты твар), сумны коцік.

## Этап 2. Падрыхтоўка

Наш комікс будзе стварацца спачатку алоўкам, а потым размалёўвацца. Паколькі некаторыя карцінкі будуць большымі за іншыя, комікс размесціцца на двух асобных аркушах (на разварот мы яго рабіць не будзем). Уласна, вось мы зрокава і прыкінулі, на якія часткі падзяліць нашы аркушы.

## Этап 3. Стварэнне персанажа

У нашым выпадку іх два. Мы не прафесійныя мастакі (у чым і пераканаліся пасля некалькіх спроб маляваць у традыцыйным стылі), таму рысоўка будзе мульцяшнай.

*Трэніруемся маляваць:*




*У колеры атрымаліся вось такія Коця і Каця:*



## Этап 4. Паслядоўнасць

Мы стварылі персанажаў, ведаем, як яны выглядаюць і што будуць рабіць. Пераходзім да работы са старонкамі комікса.

Прыкідваем, як будуць размяшчацца карцінкі (пачынаем з верхняга левага кута, пераходзім у верхні правы кут, затым спускаемся ўніз, зноў пачынаючы злева).

Дзелім кожны аркуш і мяркуем, дзе якую карціну размясціць.

*Першая старонка*







*Другая старонка*

Робім эскізы, пакідаючы месца для рэплік.



Дадаём колер.

*Першая старонка*




Дэталізуем, упісваем тэкст.




*Другая старонка*




Комікс гатовы! Віншуем!

***Вольга Глухаўцава, Ганна Казакова***

# Самая складаная тэма
# Рука чалавека

Часта у нявопытных мастакоў пры маляванні паставы чалавека ўзнікаюць лакальныя цяжкасці. Прабелы, якія вельмі замінаюць выканаць задуму. Адзін з такіх прабелаў — няведанне будовы кісці рукі. Правільныя прапорцыі, валоданне пластыкай — неабходныя складнікі навыку малявання рукі. Паспрабуем разабрацца ў гэтай складанай тэме, якая палохае малых і дарослых мастакоў. Раскладзём складаныя рэчы на простыя.

Рука ёсць дзясяткі маленькіх касцей, безліч мышцаў, усе магчымыя плоскасці руху. Пачнём з галоўнага.

Прапорцыі. Кісць рукі па даўжыні адпавядае твару чалавека. Не галаве, а менавіта твару, ніяк не менш. Гэта вельмі распаўсюджаная памылка — маляваць кісці малымі. Гэта робіць малюнак камічным.

З чаго складаецца кісць? 1 — суставў запясця, 2 — пясць, што па форме ўпісваецца ў квадрат, 3 — пальцы. Вялікі палец мацуецца да пясці пад прамым вуглом, астатнія чатыры — адзін аднаму паралельныя.

Запясцевы сустаў па форме нагадвае крыху сплюснутую манжэту, пясць мышцамі і сухажыллямі фарміруе квадрат. Косці пясці ідуць паралельна адна адной і шарападобнымі суставамі мацуюцца да фалангаў пальцаў. Пальцы складаюцца з трох фалангаў. Кожны сустаў умоўна мае форму шара.



Разгледзім анатомію кісці, каб суаднесці з ёю ўмоўную схему.



Запясцевы сустаў можа рухацца ва ўсіх плоскасцях — таму ў рукі чалавека такая прыгожая пластыка. Паглядзім на скульптуру «Давід» Мікеланджэла. Руку, якая трымае прашчу. Запясцевы сустаў добра відаць, ён прыгожа пластычна выгнуты.

Пластыка рухаў рукі разнастайная. Разагнутыя пальцы можна параўнаць з веерам, дзе запясцевы сустаў — цэнтр руху. Суставы, якія злучаюць косці пясці і фалангаў, дзеляць кісць на дзве ўмоўныя плоскасці, гэта лёгка заўважыць пры патрэбным асвятленні.



**1.** Робім накід рукі — акрэсліваем запясце і кончыкі пальцаў. Упэўніваемся, што гэты памер не меншы, чым даўжыня твару.

**2.** Умоўнай лініяй дзелім кісць на дзве няроўныя часткі — пясць і пальцы. Пясць крыху большая.

**3.** Пад прамым вуглом да далоні малюем вялікі палец і абазначаем дзве фалангі.

**4.** Накідваем чатыры пальцы, што ідуць паралельна адзін аднаму. Найдаўжэйшы палец — сярэдні, найкарацейшы і найтанчэйшы — мезенец. Абазначаем фалангі. Самая маленькая — пазногцевая, самая вялікая — бліжэй да пясці.

**5.** Абазначаем суставы, што злучаюць косці пясці і фалангаў. Заўваж, што калі злучыць лініяй суставы, атрымліваецца не прамая лінія, а дуга. На адваротным баку далоні добра відаць сухажыллі, што ідуць ад запясця да кончыкаў пальцаў.

**6.** На ўнутраным баку далоні мы бачым групы мышцаў, якія фарміруюць яе мяккімі падушачкамі. Найбольш вылучаецца мышца, якая рухае вялікі палец.

Надзейны спосаб зразумець і вывучыць пластыку рукі — рабіць замалёўкі. Малюй левую руку з люстэрка, малюй рукі сяброў. Замалёўкі могуць быць хуткія, па пары секунд. Галоўнае, рабіць іх рэгулярна і кожны раз ставіць сабе мэту наблізіцца ў выяве да рэальнасці. Тады пластыка рукі стане табе знаёмай, зразумелай. Паспрабуй знаходзіць максімальна розныя палажэнні рукі. Яна можа быць расслабленай, трымаць доўгі аб’ект і шар, абапірацца на плоскасць, трымаць аловак.

Рука — складаны інструмент, бадай, самая складаная з пункту гледжання механікі частка цела чалавека. Але варта навучыцца рэалістычна маляваць рукі — тады твой малюнак стане куды больш праўдзівым, грунтоўным, выразным.

# Стосы лічбавых тамоў

Табе цікава, дзякуючы якім людзям і прыладам сталі магчымымі электронныя кнігі?



У 1922 годзе амерыканскі адмірал і вынаходнік Брэдлі Фіск распрацаваў прыладу, якую назваў «Машына Фіска». Яна з’явілася ў абмежаванай колькасці асобнікаў і ўяўляла сабой ручную машыну для чытання. У спецыяльны жолаб ўстаўлялася копія кнігі, надрукаваная мікраскапічным шрыфтам. Зверху размяшчаўся акуляр з павелічальным шклом. Чытач пасоўваў тэкст да лінзы, пракручваючы яго. Калі старонка заканчвалася, яе замянялі на наступную. Вялікія раманы змяшчаліся ўсяго на дзясятку старонак памерам 10 на 20 сантыметраў! Вынаходніцтва Фіска магло мець поспех: танная вытворчасць, зручнасць захоўвання і адпраўкі кніг, магчымасць не выкарыстоўваць акуляры пры чытанні. Але машына не выклікала зацікаўленасці і ў масавую вытворчасць не выйшла.

Пра гэтую распрацоўку ведаў пісьменнік Боб Браўн, але ён лічыў яе крокам хутчэй назад, чым наперад. У 1930 годзе пад уражаннем ад першага гукавога фільма («Спявак джаза», 1927) ён стварае тры кнігі, у якіх апісвае незвычайную машыну для чытання. Спадзеючыся, што кінематограф развіваецца сямімільнымі крокамі, Браўн заяўляе, што і папяровыя выданні чакае рух наперад.




Ён апісвае электронна-механічную прыладу, якую можна ўзяць з сабой, напрыклад, у падарожжа, падключыць у разетку і прачытаць да сотні тысяч слоў за дзясяткі хвілін. Сустракаюцца ў яго выразы пра рэгуляванне памеру шрыфту і колеру, пра тэкст, надрукаваны на спецыяльнай стужцы, якая падаецца ў машыну і аптычна праецыруецца літаральна чытачу ў вочы. А сам чытач ужо рэгулюе хуткасць працэсу. Гэта гучыць як ідэя фантастычнага фільма нават у 2016 годзе! Адпаведна, далей апісання распрацоўка не прасунулася.



Браўн у сваіх працах ўпершыню закранае і тэму экалагічнасці электронных кніг, эканоміі паперы і чарніла. Толькі цяпер гэтыя словы знаходзяць водгук, калі ўсё больш і больш аўтараў пачынаюць выпускаць свае кнігі толькі ў лічбавым выглядзе. Цікава, як Браўн з яго фантастычнай ідэяй паставіўся б да сённяшніх электронных кніг…

У 1945 годзе амерыканскі інжынер Ваневар Буш напісаў на дзіва прадбачлівы артыкул «Як мы можам думаць», дзе апісаў канцэпцыю машыны пад назвай «Memex» (камбінацыя слоў «памяць» (memory) і «індэкс» (index). Гэтая электронна-механічная прылада дазваляе людзям захоўваць розныя запісы, дакументы, кнігі і звяртацца да іх у любы момант. Тэхнічна яна ўяўляла сабой пісьмовы стол з убудаванымі ў яго двума экранамі, на якія з адмысловых бабін праецыравалася б інфармацыя. Пры гэтым з дапамогай экранаў адмысловай палачкай можна было б і ўводзіць інфармацыю (першае апісанне тачскрына і стылуса). Натуральна, далей канцэпцыі прылада не развілася (хоць былі энтузіясты, якія праз шмат гадоў вырашылі ўзнавіць спробы), але пры гэтым заклала асновы такіх паняццяў, як гіпертэкст (выкарыстоўваецца для адлюстравання інфармацыі на інтэрнэт-старонках), інтэрнэт, функцыя распазнавання маўлення, анлайн-энцыклапедыя, персанальны камп’ютар.

У 1949 годзе сціплая іспанская настаўніца Анхела Руіс Роблес атрымлівае патэнт на сваё вынаходніцтва — «Механічную энцыклапедыю». Анхела перажывала за сваіх вучняў, і каб яны не цягалі з сабой усе падручнікі ў школу, вырашыла аб’яднаць іх у адзін падручнік — гэтакую электронную кнігу. Кніга ўяўляла сабой своеасаблівы чамаданчык з раздзеламі. Кожны раздзел — пэўны прадмет. Катушкі збоку дазвалялі ўсталёўваць патрэбную тэму. Усе «кнігі» суправаджаліся маляўнічымі ілюстрацыямі. Побач было месца, дзе вучань мог што-небудзь занатоўваць. Прылада прыводзілася ў дзеянне з дапамогай сціснутага паветра. Анхела, на жаль, не знайшла спонсараў для свайго праекта. Арыгінальны прататып да гэтага часу захоўваецца ў Нацыянальным музеі навукі і тэхналогій у Іспаніі.

А ў 1968 годзе Алан Кей стварыў прыладу для навучання дзяцей «Dynabook». Яна па сваёй сутнасці была першым ноўтбукам, уключала ў сябе ўсе сучасныя яго асаблівасці, функцыю тачскрын. Канцэпт прылады апярэдзіў свой час і не мог быць рэалізаваны, бо на той момант такіх тэхналогій яшчэ проста не існавала. Праўда, не доўга, усяго чатыры гады. Паколькі ў 1972 годзе з’явіўся першы камп’ютар з графічным інтэрфейсам.

Але нават нягледзячы на велізарны ўнёсак усіх вышэй пералічаных людзей у развіццё ідэі электроннай кнігі, яе «бацькам» лічыцца іншы чалавек. 1971-ы лічыцца годам, калі афіцыйна з’явілася само паняцце «электронная кніга»




(г. зн., нейкі твор, прадстаўлены ў электронным, лічбавым выглядзе). Тады 24-гадовы Майкл Харт, студэнт універсітэта штата Ілінойс, шпацыруючы ў Дзень Незалежнасці ЗША, 4 ліпеня, купіў у мясцовай краме копію Дэкларацыі незалежнасці. У яго ўзнікла ідэя перанесці яе ў лічбавы выгляд. Праз знаёмых ён дабраўся да камп'ютара ўніверсітэта. Атрымаўшы доступ да месца аператара, ён набраў і выклаў Дэкларацыю ў правобраз сеткі інтэрнэт — ARPAnet (сетка таксама нарадзілася ў 1971 годзе). Яе спампавалі шэсць чалавек (верагодна, недзе чвэрць усіх карыстальнікаў сеткі на той момант). Менавіта гэтая «кніга» носіць званне першай лічбавай кнігі.

Майкл загараецца сваёй ідэяй і распрацоўвае праект «Гутэнберг» (названы так у гонар першага кнігадрукара), у рамках якога вельмі амбіцыйна вырашае перавесці ў электронны фармат дзесяць тысяч кніг, прычым да канца стагоддзя. Ён вельмі хутка знайшоў сабе памочнікаў, і праект яго жыве да гэтага часу. Мэта ў дзесяць тысяч кніг была дасягнута ў 2003 годзе. Сёння праект налічвае больш за 50 тысяч кніг.

У 1985 годзе выпускаецца першая электронная энцыклапедыя на CD-ROM — Academic American Encyclopedia, якая дае імгненны доступ да велізарнай колькасці ведаў, трэба «ўсяго толькі» мець персанальны камп'ютар дома.

Доўгі час асаблівага развіцця індустрыі электронных кніг не назіралася. Праект «Гутэнберг» развіваўся, з'яўляючыся самай вялікай свабоднай электроннай бібліятэкай для многіх краін. Але ўсё змянілася ў канцы 1990 года, калі інтэрнэт стаў атрымліваць шырокае развіццё...

У Расіі ў 1994 годзе з'явіўся праект «Бібліятэка Машкова». Аўтарам праекта з'яўляўся праграміст Максім Машкоў. Бібліятэка жывая і папулярная дагэтуль. Але самым амбіцыйным можна назваць праект гіганта сусветнай IT-індустрыі Coogle — іх дзецішча «Google Кнігі». Праект быў прадстаўлены ў 2004 годзе і нясе ў сабе проста неверагодную ідэю — перанесці ў электронны выгляд усе кнігі, калі-небудзь створаныя чалавекам! Па падліках супрацоўнікаў праекта колькасць кніг у свеце — 130 мільёнаў (без уліку перавыданняў). На канец 2012 года бібліятэка ўтрымлівала неверагодную колькасць лічбавых кніг — 25 мільёнаў!

Добра, электронныя кнігі ў нас ужо ёсць, але на чым жа нам іх чытаць, акрамя камп'ютара? Пра гэта распавяду наступным разам, дамовіліся?

***Ягор Валянкоў, праграміст***

У царкве з Лізай Ліпай

# Працягваем знаёмства з царкоўным хлебам



А́ртас («квасны хлеб») — хлеб, які быў асвячоны ў Велікодную ноч. На працягу ўсёй Светлай сядміцы (так называецца першы тыдзень пасля Вялікадня) займае ў храме самае бачнае месца разам з вобразам Уваскрэсення Гасподняга і па заканчэнні велікодных урачыстасцяў раздаецца вернікам. У саракавы дзень пасля Уваскрэсення Гасподзь Ісус Хрыстос узнёсся на неба. Вучні і паслядоўнікі Хрыста знаходзілі суцяшэнне ў малітоўных успамінах пра Госпада — яны прыгадвалі кожнае Яго слова, кожны крок і кожнае дзеянне. Збіраючыся на агульную малітву, яны ўспаміналі Апошнюю Вячэру і прычашчаліся Цела і Крыві Хрыстовых. Калі рыхтавалі звычайную трапезу, першае месца за сталом пакідалі пустым і клалі на яго хлеб. Пераймаючы вопыт апосталаў, першыя хрысціянскія пастыры ўсталявалі звычай: на свята Уваскрэсення Хрыстовага класці ў храме хлеб як вобраз таго, што пацярпелы за нас Хрыстос зрабіўся для людзей сапраўдным хлебам жыцця.

На артасе выяўляецца Уваскрэсенне Хрыстова альбо крыж, на якім бачны толькі цярновы вянок, але няма ўкрыжаванага Хрыста, — як знак перамогі над смерцю. Асвячаецца артас малітвай, акрапленнем святой вадой і каджэннем у першы дзень Святога Вялікадня падчас здзяйснення Літургіі. У суботу Светлай сядміцы ў канцы Літургіі святар прамаўляе малітву, пасля чытання якой дзеляць артас, а пры цалаванні крыжа раздаюць людзям як святыню. Часткі артаса, атрыманыя ў храме, з глыбокай пашанай захоўваюцца вернікамі ў якасці духоўных лекаў ад хвароб і немачы. Артас ужываецца ў асаблівых выпадках, напрыклад, у час знясіленасці і хваробы, і заўсёды са словамі «Хрыстос Уваскрэсе!». Па традыцыі артас дзеляць на дробныя часткі і спажываюць на працягу года, ад Вялікадня да Вялікадня.

І просвіры, і артас належыць есці нашча і з малітвай. Захоўваць пасвячоны хлеб трэба ў чыстым посудзе, асобна ад іншай ежы. Калі просвіра ці артас з нейкіх прычын зрабіліся непрыдатнымі, варта іх спаліць (аднесці для спальвання ў царкву) ці пусціць па рацэ з чыстай вадой.




Прывітанне, мой дарагі!

Вось і лета завяршаецца, і 28 жніўня праваслаўныя будуць святкаваць Успенне Прасвятой Багародзіцы.

Свята гэтае прысвечана напаміну пра смерць (Успенне) Божай Маці.

Як можна святкаваць дзень смерці? Так, для тых, хто жыве рэальнасцю матэрыяльнага свету, смерць цела значыць канец існавання. Для такіх людзей смерць — гэта гора, бяда, непапраўная страта, боль расстання з любым чалавекам. А для хрысціяніна смерць — гэта пераход. Пра памерлага хрысціяне кажуць не «памёр», а «прастравіўся». Перастравіўся ў іншую рэальнасць, у іншае жыццё, вечнае. Жывая душа яго адышла да Бога, паўстала перад Стваральнікам.

А як адбывалася ўспенне Дзевы Марыі?

Пасля ўзнясення Збавіцеля яго любімы вучань апостал Іаан узяў на сябе апеку над Маці Божай. Яна малілася разам з апосталамі і ў дзень Пяцідзясятніцы, як і ён, атрымала дар Святога Духа. Да часу Сваёй смерці Багародзіца жыла ў Іерусаліме. Гасподзь адкрыў Сваёй Маці дзень яе смерці. Архангел Гаўрыіл з'явіўся да Дзевы Марыі і папярэдзіў, што праз тры дні Яна адыдзе да Хрыста Бога. Супакойваючы Багародзіцу, архангел паведаміў Ёй: «Сын Твой і Бог наш архангеламі і ангеламі, херувімамі і серафімамі, з усімі нябеснымі духамі і душамі праведных прыме Цябе, Маці Сваю, у нябеснае царства, каб Ты жыла і царавала з Ім бясконцы час».

Архангел уручыў Багародзіцы пальмавую галінку, наказаўшы несці яе перад труной Багародзіцы пры пахаванні.

Божая Маці паведаміла пра атрыманую вестку Іосіфу Арамейскаму і, развітаўшыся з блізкімі, аддаўшы распараджэнні аб Сваёй маёмасці, прыгатавалася да смерці. Жадаючы бачыць перад смерцю апосталаў, Яна звярнулася з малітвай да Госпада, і па загадзе Божым апосталы, якія прапаведавалі Евангелле ў розных краінах, дзівосным чынам былі перанесены ангеламі ў Іерусалім і пастаўлены на парозе дома, дзе чакала скону Божая Маці.

*Ёсць такая прымаўка: «Чалавек на смерць нараджаецца, а на жыццё памірае».*

Раптам у пакоі заблішчэла святло Божай славы. Апосталы ўбачылі, што дах раскрыты і Цар славы Хрыстос з ангеламі і архангеламі, з усімі нябеснымі сіламі, са святымі праайцамі і прарокамі, з усімі праведнымі



*Святыня Беларусі — Жыровіцкі абраз Божай Маці знаходзіцца ў Свята-Успенскім манастыры.*

душамі набліжаецца да Прачыстай Сваёй Маці.

На абразе Успення ты ўбачыш той момант, калі душу Сваёй Маці Гасподзь беражліва, як немаўлятка, трымае ў руках, каб забраць у Сваё Царства. А прачыстае цела памерлай Божай Маці ляжыць на ложку.

Пахаванне Багародзіцы апосталы здзейснілі ў грабніцы, дзе былі пахаваны Яе бацькі Іаакім і Ганна і муж Іосіф. Прачыстае цела ўрачыстай працэсіяй з псалмаспевамі неслі праз Іерусалім. Іўдзейскія свяшчэннікі накіравалі варту, каб разагнаць працэсію. Але воблака спусцілася на зямлю, шчыльнай сцяной абкружыўшы апосталаў і хрысціян. Іўдзейскі першасвяшчэннік Афоній, які ішоў міма, ад злосці хацеў перакуліць ложа, але рукі яго былі адсечаны невядомай сілай. Пасля раскаяння ён вылечыўся і спавядаў сябе хрысціянінам.

Пасля пахавання апосталы закрылі ўваход у пячору і сышлі. Тры дні вакол пячоры быў чуваць ангельскі спеў. Паводле падання, у пахаванні не браў удзел апостал Фама. Ён прыйшоў у Іерусалім на трэці дзень. Калі па яго просьбе апосталы зрушылі камень каля пячоры, каб ён мог развітацца з Божай Маці, то ўбачылі: у труне Божай Маці няма! Засталіся толькі пахавальныя тканіны, якія патыхалі дзівосным пахам. Са слязьмі маліліся апосталы Госпаду, каб Ён адкрыў ім, куды знікла цела Багародзіцы. У той жа вечар за трапезай перад апосталамі паказала Сябе Сама Багародзіца ў акружэнні ангелаў і прывітала: «Радуйцеся! Бо я з вамі ўсе дні!»

Багародзіца з намі! Веру і ведаю з вопыту, што Прачыстая чуе малітвы грэшнікаў і дапамагае ім: ратуе, вылечвае, настаўляе на розум.

Маліся Маці Божай, мой дарагі. Маліся горача, шчыра, ад душы: «Прасвятая Багародзіца, ратуй нас! Маці Божая, дапамагай нам!»

А Госпаду маліся так: «Госпадзі Ісусе Хрысце Бог наш, Багародзіцаю памілуй нас!»

Беражы цябе Бог, мой дарагі.

*У вядомым слоўніку Уладзіміра Даля ў артыкуле «Смерць» напісана: «Смерть — конец земной жизни, кончина, разлученье души с телом, умиранье, состояние отжившего. Смерть человека — конец плотской жизни, воскресенье, переход к вечной, духовной жизни».*

***Твая хросная.***



## Грыбная пара

* * *

Хусцінка з павуцінкі
Павісла на галінках,
На кожнай павуцінцы —
Па пацерцы-расінцы.

* * *

Як хораша ў пару грыбную,
У ясны сонечны дзянёк,
У лесе пагуляць часок,
Сустрэць там восень залатую
І ёй адкрыць душы жаданне,
Але пра крыўды прамаўчаць,..

Ну, а затым, на развітанне,
Грыбоў кош поўны назбіраць.

***Максім Прыгожы,***
***5 клас, Дзераўнянская СШ,***
***Стаўбцоўскі раён***

## Хай не знікае наша мова

Хай не сціхае мова нашых вёсак,
Блакітных рэчак, велічных лясоў!
Хай мова, нам падораная лёсам,
Ярчэй гучыць, чым гучнасць новых
слоў.

Ніколі хай яна не затухае,
Як зніч у печках прашчураў-дзядоў.
Няхай яна гарыць, ды не згарае
У гутарках аб сэнсе новых слоў.

Няхай зайграе непаўторнай флейтай
Ад рэчак і да самай вышыні,
І адгукнецца ў сэрцах нашых рэхам,
Як песні, што калісь спявалі мы...

Хай роўняй стане ў шэрагу выдатных,
Прыгожых і змястоўных іншых моў,
Хай не губляецца сярод астатніх
З-за падабенства гукаў, літар, слоў!

Хай мова разгарне свае далоні,
Расчыніць перад намі новы свет
У вершах, жартах , нават у размовах…
Каб зберагчы яе, як запавет!

***Кацярына Тарасава,***
***9 клас, СШ № 157, Мінск***



## Любімая пара года

Люблю я восень залатую,
Адлёт прыгожых жураvoў…
Хоць, часам, дожджыкам сумую
І не хапае нават слоў,
Каб напісаць пра непаўторны
Пах яблык у пагодны дзень
І пра букет, з якім у школу
Іду, трымаючы партфель.

Люблю зіму з бялюткім снегам,
З марозным снежаньскім
дзяньком,
Калі на санках з горкі еду
І раптам стрэнуся з пяньком.
А потым Новы год, Каляды…
За святам свята ўсю зіму.
Мы ўсе зіме, вядома ж, рады!
І кожны ведае чаму.

Люблю вясну з зялёным лісцем,
Празрыстым небам і цяплом.
І спеў птушыны, звонкі, чысты,
І пах чаромхі за акном.
Вясной віншуем мам са святам!
І свята свят — сама вясна,
Што спала ў снегавых палатах
І прачынаецца ад сна…

А летам добра, як ніколі,
Яно ўслед за вясной ідзе…
Заняткі скончыліся ў школе,
На рэчцы плёскайся ў вадзе!
У лесе ягадак навалам,
З рамонкаў я вянок зраблю…
Аднак жа я не адказала,
Якую больш пару люблю!

Я летам восені чакаю,
Зімою мару аб вясне…
Я кожную пару вітаю,
Усе яны па сэрцы мне!

*Марыя Краўчонак,*
*8 клас, СШ № 179, Мінск*

# Дождж



*Мастачка Дана Цуперак*

Вечарам з захаду насунулася хмара. Чорная, страшная, велічная. За якіх-небудзь дзесяць хвілін яна накрыла ўвесь горад. Хмара вісела так нізка, што, здавалася, працягні руку і дакранешся да яе. Бесперапынна блішчалі маланкі, гром грымеў так, што здавалася, неба вось-вось расколецца на часткі. І раптам яно раскалолася, бо лінуў такі дождж, быццам хтосьці абярнуў вялізную бочку з вадой, і тая рынулася з неба вадаспадам. Усё схавалася за гэтай суцэльнай вадзяной заслонай.

Раптам з-за гэтай завесы выскачыў чалавек. Ён, што было моцы, уцякаў ад навальніцы, а вада, здавалася, гналася за небаракам і літаральна хвастала яго срэбнымі пруткамі струменьчыкаў. У руках чалавека быў парасон, але ў такі лівень ад яго мала карысці.

Чалавек прабег пад маім акном і зноў згубіўся ў вадаспадзе. І зноў нічога, акрамя вады.

Моцны лівень працягваўся хвілін дваццаць. Потым ён крыху абяссілеў, сцішыўся. Грымоты сталі ледзь чутнымі, маланкі пачалі бліскаць радзей. Але дождж не скончыўся, ён ішоў амаль усю ноч.

А раніцай хмары разышліся, за акном засвяціла сонца. Дождж, змыўшы пыл і бруд, дадаў яшчэ больш смарагду дрэвам, кустам і траве. Будынкі выглядалі чыстымі і прыгожымі, і неба стала амаль бяздонным, і засвяцілася нейкім асаблівым блакітам, нібы дождж вымыў заадно і яго.

Захацелася хутчэй на вуліцу, падыхаць свежым вільготным паветрам, прайсціся па мокрай траве, пакуль сонца яшчэ не ўсё высушыла.

А там, у вялізных лужынах, выразна адлюстраваліся і мокрыя дрэвы, і дамы, і блакітнае неба. Сонечныя промні залатымі зайчанятамі весела заскакалі па іх бліскучай паверхні.

Бярозкі звесілі мокрае голле амаль да зямлі. За ноч яно набрыняла вадой. На лісточках яшчэ трымцяць празрыстыя кропелькі дажджу і нагадваюць маленькія дыяменты, у якіх блішчаць-пераліваюцца тысячы яркіх вясёлак.

Але ранішняе сонца адразу ж прынялося старанна высушваць гэтыя дыяменты, і, як мог, дапамагаў сонцу ў гэтым лёгкі цёплы ветрык. Ён страсаў кропелькі з галінак, і тыя ляцелі ўніз і ператвараліся ў дробны вадзяны пылок. Хутка бярозкі высахнуць і зноў уздымуць да неба свае тонкія галінкі.

Птушкі, здаецца, больш за ўсіх радуюцца заканчэнню непагадзі. Яны весела і звонка зацвыркалі, зашчабяталі, заспявалі на ўсе галасы, распачынаючы свой ранішні канцэрт. І так хораша стала на душы, што захацелася закрычаць: «Людзі! Добрай раніцы! Паглядзіце, як прыгожа вакол!» І заспяваць разам з птушкамі гімн новаму шчасліваму дню.

***Маргарыта Садоўская,***
***6 «В» клас, СШ № 40, Магілёў***

*Мікола Чарняўскі*

# Цяністых лясоў летуценніца

*Вершы аб рэках і азёрах Беларусі*



## Лань — рака лясная

Мабыць, тут калісьці лані
Статкам бегалі наўскач,
І на ланяў палявалі,
Іх высочвалі, як бач…

Іх краса, іх лёт крылаты
Захаплялі дух усім.
Ад чужынцаў,
Ад магнатаў
Не было ратунку ім.

Час прабег,
Як лань, няйначай,
То паволі, то жвавей…
Ланяў тут ужо не ўбачыш,
А рака цячэ, жыве.

Чым здзіўляе, захапляе —
Ты пра тое не пытай:
Кнігу «Лань — рака лясная»
Не чытаў, дык прачытай.

## Цяністых лясоў летуценніца

То блісне на сонцы,
То ценіцца,
Пад шаты схаваўшыся,
Ценіца.

Уецца жывым шнурочкам,
Разматвае сіні сувой
Сярод лугавых званочкаў,
Пад шолах таемны хвой.

Спяшаецца,
Бо не церпіцца
Да Обалі плыннай дамчаць,
Паклон ёй ад возера Ценіца —
Ад маці сваёй перадаць.

Цяністых лясоў летуценніца,
Бяжы, не хавайся з вачэй,
Самотна не ценься, Ценіца,
А ўсім нам спявай званчэй!

## Вечар над Чарэяй

Над Чарэяй
вечарэе,
Спахмурнелы неба дах.
Зачароўвае Чарэя
Шэптам хваль
У чаратах.

Плёс —
Як золата заліты,
Быццам сонца села ў ім
Падзівіцца на ракіты:
«Што зажурана стаім?»

А чаму, чаму журыцца?
Што ім мроіцца ў журбе?
Ноччу ўжо не надзівіцца,
Бы ў люстэрка,
На сябе.

*Вядомы дзіцячы пісьменнік Мікола Чарняўскі шмат вершаў прысвяціў беларускім рэкам і азёрам. На цэлую кнігу назбіралася. Яна пакуль не выйшла, а вы ўжо знаёміцеся з яе старонкамі. Такое бывае, калі сябруеш з «Бярозкай».*

Лес, ахутаны смугою,
Волка цішай патыхнуў.
Быццам невад,
Над вадою
Вечар цені ўскалыхнуў.



Надбярэжныя мярэжы
Расхінуў цяпельца дым:
У чаканні юшкі свежай
Ён паплыў,
Салодкі ўсім.

Ён у змрок пад трэск ігліцы
Плыў, ад іскраў залацеў,
Бы за лесам Чамярыцы
Радасць выказаць хацеў…

Над Чарэяй
вечарэе,
Зорак рой у сіняве.
Гэта ў човен
Поўня села?
Гэта ў ім
Зара плыве?

## Возера Вячэра

Шапаціць чаротам бераг,
Лашчыць сонцам сінь-бязмеж.
Што ж ты, возера Вячэра,
Нас вячэрыць не завеш?

Кажаш нам:
«Яшчэ далёка
Да сутоння, да цямка,
Калі ўжо чырвоным вокам
Гляне сонца з-за ляска».

Кажаш:
«Можаце паверыць,
Я — гасцінная заўжды.
Пазаву я вас вячэраць,
Як заробіце,
Тады.

Абкасіце гэты бераг —
Асакой зусім зарос,
З-за рагозу ды аеру
Цяжка выбрацца на плёс.

Я скупечаю не буду —
Адплачу без лішніх слоў.
Закідайце потым вуды —
Будзе ўлоў,
Багаты ўлоў.

Не паможаце — змялею.
Хто ж вам рыбкі дасць тады?
Хто касіць яшчэ не ўмее,
Тату клікніце сюды.

Хоць Арэса мне вадою
Памагае ўсе гады,
Ды, каб жыць даўжэй магло я,
Мала ўсё ж
Адной вады…»

Бераг выслаНы аерам.
Дзень смугу над лесам тчэ.
Чым ты, возера Вячэра,
Здзівіш нас усіх яшчэ?

Не такім было ты ўчора —
Пабярэжжа не спазнаць.
Ты — Вячэра ці Вячора?
Як цябе нам
Лепей зваць?

## Пабывайце на Струне

Хочаш ведаць,
Хто яна,
Гэта сіняя
Струна?
Ці бываў,
Цікава мне,
Ты ў кутку тым,
На Струне?

А ці чуў калі яе —
Як звініць яна,
Пяе?
Што, не ведаеш?
Не чуў?
Запрасіць тады хачу
У вандровачку адну,
Дзе і ўбачыш ты
Струну.

Там, дзе гоні
Цешаць цішай,
Працягнулася Струна.
Выйдзеш, станеш
Там, дзе вышай, —
Стане лепш
Струна відна.
Дзе Струна ў лугах пралегла —
Ад чмялёў гудзе струной.
Там жа, дзе ў лясок забегла —
Птушак спеў уторыць ёй.

А вудоўі, як антэны,
Ловяць гукі ў гэты міг.
Спрыт у конікаў адменны —
Не змаўкаюць скрыпкі іх.
Над Струной —
Паслухаць люба! —
Іх смычкі чаруюць слых.
Гэта ім,
Узняўшы дзюбы,
Дырыжыруюць буслы.

А яшчэ ж —
З Літвой здаўна
Нас яднае тут
Струна.
Пабывайце на Струне —
Там Струна
Красой кране,
І яшчэ мацней, браток,
Ты палюбіш
Той куток!



*Валянціна Кадзетава-Арэстава*

# Нямецкая каша



— Дзядуля, а колькі табе гадоў у вайну было? — спытаўся ў Васіля Пятровіча малодшы ўнук Міця.

Васіль Пятровіч хітравата прыжмурыўся:

— А ты палічы. Я нарадзіўся ў 1936 годзе, а вайна пачалася… Ну, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна?

— Вялікая Айчынная вайна пачалася 22 чэрвеня 1941 года, а скончылася 9 мая 1945 года, — задаволена адрапартаваў Міця, але тут жа расчаравана ўздыхнуў: — Дык ты ж, дзедка, зусім малы быў і, відаць, нічога цікавага пра вайну расказаць не можаш.

— Чаму ж не магу? — усміхнуўся Васіль Пятровіч. — Вось паслухай, якая гісторыя адбылася са мною ў час вайны…

Было гэта ў 1943 годзе. У маім родным горадзе Рагачове тады гаспадарылі немцы. На вуліцы, дзе жыла наша сям'я, у двары аднаго з суседскіх дамоў, а дакладней, у вялікім садзе, што рос за дамамі, стаяла нямецкая палявая кухня. І вось, калі іхні кухар, высокі рыжавалосы салдат, пачынаў гатаваць ежу, мы з маім сябрам і аднагодкам Віцькам, прынаджаныя заманлівым пахам (галодныя ж былі!), крадком падбіраліся да саду і праз дзіркі ў плоце цікавалі за кухарам.

Аднойчы немец заўважыў нас. Мы спужаліся, але ён нечакана прыязна заўсміхаўся і, махнуўшы рукою, прамовіў: «Кіндэр, ком гір!» (дзеці, ідзіце сюды!). Віцька войкнуў і хацеў даць лататы, але я спыніў яго: «Баязлівец! Немцы ж не ўсе аднолькавыя. Бываюць і нармальныя. Можа, і гэты нармальны. І зброі ж у яго няма. Можа, ён пачаставаць нас хоча».

Тут, нібыта пачуўшы мае словы пра пачастунак, кухар узяў са стала вялікую міску, наклаў у яе паўнютка, з верхам нават, кашы, уторкнуў у яе дзве лыжкі і, не перастаючы ўсміхацца, сказаў: «Кіндэр, эсэн» (дзеці, есці). Чакаць паўторнага запрашэння мы з Віцькам не сталі.

Праз колькі хвілін не зусім сытыя (прасіць дабаўкі не асмеліліся), але ўсё ж задаволеныя, мы беглі дадому.

Нямецкая каша вельмі нам спадабалася. Ці то яна і сапраўды была смачная, ці так падалося нам з галадухі, але ўспамінаючы яе смак, мы з Віцькам аблізваліся і прыцмоквалі языкамі.

Назаўтра, падгледзеўшы, калі рыжы кухар застанецца адзін (немцы, што сталі ў доме, некуды сыходзілі), мы зноў — ужо без запрашэння — прайшлі ў сад,

і кухар зноў наклаў нам поўную міску кашы. Убачыўшы, як хутка мы апаражнілі ёмістую пасудзіну, немец здзіўлена пахітаў галавою, зноў напоўніў міску і адвярнуўся да другога катла, каб памяшаць варыва, якое булькала ў ім. Тым часам Віцька выхапіў з-за пазухі палатняны мяшэчак, высыпаў туды кашу і, саўгануўшы мяшэчак назад, прашаптаў: «Мы тут жаром, а нашы дома галодныя. Аднясём ім».

*Валянціна Кадзетава-Арэстава засведчыла сябе як празаік па шматлікіх публікацыях у перыядычным друку. Аўтар некалькіх кніг прозы і суаўтар міжнароднага калектыўнага зборніка пісьменніц Расіі і Беларусі. Па двух апавяданнях пісьменніцы зняты кароткаметражныя фільмы.*

Вы нават уявіць сабе не можаце, што зрабілася з рыжым, калі ён, павярнуўшы да нас галаву, убачыў, што мы з Віцькам (ну, усяго ж хвіліна нейкая прайшла!), седзячы перад пустой міскаю, спешна злізваем з лыжак апошнія крупінкі кашы! Нядаўняя прыязная ўсмешка імгненна спаўзла з яго твару. У вылупленых блякла-сініх вачах з'явілася не проста здзіўленне, а неразуменне і нават прымхлівы страх. Яшчэ раз зазірнуўшы ў апусцелую міску, ён схапіў вядро, што стаяла побач, кінуў туды некалькі вялізных чарпакоў кашы і паставіў вядро перад намі.

— Дарэмна мы ўкралі кашу, — зноў прашаптаў Віцька, — немец сам здагадаўся, што трэба і з сабою нам крыху даць. Вунь болей паўвядра адшкадаваў. Вось ужо дабрачы фрыц!

Але радаваўся Віцька рана! У руках у «дабрачага фрыца» немаведама адкуль з'явіўся аўтамат. Кухар навёў яго на нас і, паказаўшы на вядро, крыкнуў: «Эсэн! Шнэль!»

Дарэмна мы з Віцькам спрабавалі растлумачыць нашаму «карміцелю», што «эсэн» кашу мы будзем дома, а цяпер мы ўжо «найн эсэн». Немец усё больш пагрозліва паўтараў сваё «эсэн» і нават разоў колькі шчоўкнуў замком аўтамата. І мы мусілі ўзяцца за лыжкі…

Спачатку елі не тое каб з апетытам (які тут апетыт пад прыцэлам аўтамата!), але і без той агіды, якая паступова пачала авалодваць намі. Мы сілком пхалі ў сябе яшчэ нядаўна такую смачную нямецкую кашу, і слёзы адчаю цяклі па нашых скрыўленых ад страху тварах.

Ненавіснае «эсэн» перастала гучаць толькі тады, калі мы з Віцькам з'елі ўсю кашу. Больш за паўвядра кашы!

— Вэк! — крыкнуў рыжы фашыст, і мы з Віцькам пад задаволены рогат нашага мучыцеля пасунуліся дадому…

* * *

Кашы нам з Віцькам пасля гэтага доўгі час не хацелася. А потым нічога, зноў елі. Але ўжо не нямецкую (немцаў — і таго рыжага гада таксама! — неўзабаве з нашага горада паперлі), а сваю родненькую, беларускую.



# Персідскія казкі

*У кожнага народа ёсць казкі. Вясёлыя і сумныя, чарадзейныя і бытавыя, але заўсёды павучальныя. Адны з іх вельмі падобныя на казкі іншых народаў, іншыя — даволі самабытныя і арыгінальныя. «Бярозка» прапануе чытачам пазнаёміцца з трыма персідскімі народнымі казкамі. А заадно пашукаць сярод беларускіх народных казак тыя, што падобныя да гэтых сюжэтамі. Адказы пішыце цікавыя і разгорнутыя, дасылайце іх у «Бярозку», а мы надрукуем лепшыя.*

## Парада маці



*Мастачка Дана Цуперак*

У адной вёсцы жыў земляроб, у якога былі жонка і адзіны сын. Сям’я селяніна была забяспечанай і ні ў чым не мела патрэбы. Бацька часта павучаў сына, што да выбару сяброў трэба падыходзіць вельмі адказна.

Праз некалькі гадоў земляроб памёр, і ўся яго ўласнасць па спадчыне перайшла да сына.

Мала-памалу хлопец стаў забываць пра бацькавы навучанні, пачаў марнаваць маёмасць і няўважліва ставіцца да выбару сяброў. Кожны тыдзень ён спраўляў гулянкі, весела бавячы час са сваімі таварышамі. Ішлі дні, і сын земляроба ўсякі раз, калі меў патрэбу ў грашах, прадаваў невялікі ўчастак бацькоўскай зямлі.

Маці, якая была сведкам гэтых несамавітых учынкаў, спрабавала абразуміць сына і звярнуць яго ўвагу на зробленыя ім памылкі. Аднойчы, каб супакоіць маці, сын паабяцаў ёй, што ўчыніць сваім сябрам праверку, і тым самым дакажа, што яны добрыя. Тады яна ўбачыць, што памыляецца наконт іх.

На наступны дзень, падчас чарговага застолля хлопец сказаў сваім сябрам:

— Ужо некалькі тыдняў як у нашай хаце пасялілася нейкая нахабная мыш, якая зрабіла сабе норку і тым самым парушыла наш спакой. Учора вось ізноў сваімі дробнымі зубамі пагрызла таўкачык для ступкі.

Таварышы пасмяяліся над яго наіўнасцю, маўляў, як гэта магчыма, каб мыш грызла металічны таўкачык, аднак зрабілі выгляд, што паверылі яго словам, і сказалі:

— Так, мабыць, таўкачык быў тлусты і вельмі апетытны.

Пазней сын сказаў маці:

— Мама, я расказаў сябрам неpraўдападобную гісторыю, а яны праявілі да мяне павагу і нават не падалі выгляду, што я зманіў.

Маці адказала:

— Сынок, той сябар добры, які не прыме за праўду тваю хлусню і адкрыта табе пра гэта скажа.

Аднак ён прапусціў матчыны словы міма вушэй.

Неўзабаве памерла маці, і хлопец застаўся адзін. Ён гэтак жа працягваў марнатравіць маёмасць, пакуль не пусціў на вецер усё.

Аднойчы, калі хлопец быў галодны, пайшоў ён да сваіх сяброў, якія весела бавілі час у той вечар. Ён сеў побач з імі, спадзеючыся, што яго запросяць да стала і ён зможа паесці. Аднак таварышы нават не звярнулі на хлопца ўвагі. Тады ён сказаў:

— Пакінуў учора на стале праснак і кавалак сыру, але мыш ўсё гэта з’ела.

Сябры пасмяяліся і спыталі:

— Як мыш магла з’есці цэлы праснак?

Хлопец адказаў:

— Ну, калі яна пагрызла ўвесь таўкачык, чаму ж яна не можа з’есці праснак?

Успомніў тады хлопец парады бацькі і маці і зразумеў, як моцна ён памыляўся. Аднак, на жаль, было занадта позна, і ён ужо не мог выправіць свае памылкі.



*Мастачка Дана Цуперак*

# Дрывасек

Жыў-быў дрывасек, які зарабляў тым, што кожны дзень хадзіў у лес, сек там высахлыя галіны дрэў, заносіў іх у горад і прадаваў.

Раніцай аднаго дня, накіроўваючыся ў лес, ён звярнуў увагу, што за ім ідзе чалавек. Спачатку лесаруб падумаў, што гэта падарожнік, які ідзе тым жа шляхам, але потым заўважыў, што той сядае адпачыць менавіта ў той момант, калі спыняецца для адпачынку ён сам, а затым незнаёмец зноў ідзе следам за ім.

Прыбыўшы ў лес, дрывасек прыступіў да сваёй звычайнай працы, а яго загадкавы спадарожнік прысеў паблізу ў цені дрэва.

З кожным узмахам сякеры і ўдарам ёй па дрэве незнаёмец абавязкова цяжка ўздыхаў.

Дрывасек вырашыў так: «Відаць, гэты хлопец вар’ят: я працую, а ён дэманструе пачуццё стомленасці».

Скончыўшы працу, лесаруб звыкла сабраў галінкі, занёс іх у горад і прадаў. Калі ён вяртаўся дахаты, яго спыніў той самы чалавек і сказаў:

— Ты абавязаны заплаціць мне за работу.

— Гэта з якой ласкі? — спытаў дрывасек.

— Ты сек галіны, а я ўздыхаў, гэта значыць дапамагаў табе працаваць, таму ты павінен мне заплаціць. А калі не заплаціш, паскарджуся на цябе суддзі!

Дайшла гэтая справа да суддзі. Той выслухаў аповед лесаруба, а потым звярнуўся да заяўніка:

— Ці так усё было? Дрывасек кажа праўду?

— Так, правільна. Я цяжка ўздыхаў, чым і дапамагаў яму ў рабоце, таму ён абавязаны мне заплаціць.

Суддзя папрасіў у адказчыка кашэль з манетамі, высыпаў іх на зямлю і спытаў у істца:

— Што ты цяпер чуў?

— Я чуў звон манет, — адказаў той.

— Правільна, — сказаў суддзя. — Менавіта гэты звон манет і ёсць твой заробак. Калі дрывасек працаваў, ён чуў толькі твае цяжкія ўздыхі, аналагічна таму, як і цяпер, пры выплаце табе зарплаты, ты можаш атрымаць толькі тое, што пачуў, а менавіта звон манет. А цяпер ты свабодны і вольны купіць на свой заробак усё, што пажадаеш.

Гультай быў вельмі здзіўлены пастановай суддзі і пайшоў ні з чым, а задаволены дрывасек вярнуўся дахаты.



# Мара

У далёкія часы жыў адзін хлопец, які марыў стаць злодзеем. Вядома, гэта было незвычайнае жаданне, але ён так заўзята аб гэтым марыў, што вырашыў авалодаць усімі тонкасцямі зладзейскага рамяства. Таму заўсёды і ўсюды ён уважліва прыслухоўваўся да гутарак на гэтую тэму, каб вывучыць усе метады і прыёмы крадзяжу.

Аднойчы дасведчаны злодзей сказаў яму:

— Калі ты хочаш стаць лепшым у гэтай справе, то павінен пайсці да настаўніка злодзеяў.

Юнак спытаў:

— А які метад крадзяжу ён выкарыстоўвае цяпер?

— Некалькі гадоў таму ён пакінуў рамяство, але дапамагае ўсім, хто да яго звяртаецца, — адказаў злодзей.

Хлопец сабраў торбу і рушыў у дарогу. Праз некалькі дзён ён дабраўся да жылля майстра. Той адчыніў дзверы і спытаў:

— Што табе трэба? Відаць, ты прыбыў здалёк.

— Настаўнік, я прыйшоў вывучыць усе метады і прыёмы зладзейскай справы, — адказаў госць. Гаспадар распасцёр рукі:

— Праходзь жа! Ты трапіў у найлепшае месца.

Шчаслівы юнак увайшоў у хату і працягнуў:

— Я хачу стаць вялікім злодзеем. З чаго мне варта пачаць?

Стары настаўнік адказаў:

— Заўтра я табе ўсё раскажу.

Раніцай наступнага дня гаспадар згатаваў сняданак, які складаўся з мяса, зеляніны і хлеба. Хлопец сачыў за ўсімі яго дзеяннямі, але не ўбачыў нічога, што датычылася б зладзейскай справы.

Апоўдні гаспадар разаслаў каляровы абрус, паклікаў госця і сказаў:

— Глядзі. Цяпер пачынаецца наш урок.

Юнак сеў за стол і працягнуў руку, каб узяць ежу, але пачуў:

— Заўсёды еш толькі левай рукой.

— Чаму? — запытаў здзіўлены вучань.

— Калі хочаш стаць прафесійным злодзеем, то ў цябе няма іншага выйсця. Ты павінен есці толькі левай рукой. Гэта важная частка нашага навучання, — адказаў настаўнік.

— Але я да канца жыцця не навучуся есці левай рукой.

Стары адказаў:

— Паслухай, малы. Кожнаму, хто крадзе, адсякаюць правую руку. Таму, калі не хочаш памерці з голаду, ты павінен навучыцца кіраваць левай рукой.

Як толькі вучань пачуў гэта, розум яго прасвятлеў. Ён папрасіў прабачэння ў гаспадара і вярнуўся ў свой горад, дзе знайшоў сабе належную і шаноўную працу.

***Пераклад з персідскай Дзмітрыя Корзунава***

## Аповесць-канструктар

## *Аліна Длатоўская. Арнаменты*

*Пачатак у нумарах 1—7.*

*Мастачка Наталля Длатоўская.*




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 113 (117, 121, 125) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба склеіць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

між сабой сварыліся. Калі ў яго атрымлівалася нешта асабліва паскуднае, ён гадзенька хіхікаў ды паціраў маленькія парослыя поўсцю далоні.

— Гэта яшчэ хто такі? — шэптам пацікавілася Аліса.

— Гэта Апівень. Дрэнь неверагодная. Схіляе людзей ужываць зашмат алкаголю, прымушае нападпітку розную лухту бачыць. Такім чынам даводзіць да вар'яцтва ці да хвароб страшных. Не люблю паскудзь, — Юрась агідна скрывіўся.

— Дык ты не будзеш яго запрашаць на Купалле?

— Гэтага? Ды ён сам прыйдзе. Каб без яго хоць адна сустрэча праходзіла, дык усе б толькі рады былі.

— А як з ім змагацца? — раптам спытала Агнія.

— Ды ніяк. Кампоцік піць ды ніколі алкаголю ў рот не браць. Гэта такая дрэнь, супраць якой ніякая зброя не дапаможа, акрамя ўласнай вытрымкі ды сілы волі.

— Ты з ім не сябруй тады ніколі, добра?

— Не буду, Агеньчык.

***

Міраславе надакучыла прачынацца ў пустой хаце. Толькі ўсё наладзілася, толькі яе новы дом зноў стаў домам, як Кіраўніку прыйшло ў галаву, што трэба ўпэўніцца ў існаванні вядзьмаркі ды яе вучаніцы ў Знешнім сусвеце і ніхто не зробіць гэта лепш за Стэфана. Усевалад, ясная справа, застаўся тут. Больш за

116



113

— Ну вось. Вяртайце хутка! Бо зараз раззлуюся!

Нячысцікі мітуслiва выклалі ўсе рэчы на пень ды шчыра залыпалі вачыма на Юрася. Той толькі зноў засмяяўся.

— Мы да вас па справе.

— Няўжо для нас заданне? Заданне? Для нас? — загулі яны ўсе разам.

— Заданне. І вельмі адказнае! У купальскую ноч абавязкова ўсім гуртам з'явіцца да ляснога возера.

— А што там будзе?

— Там будзе цікава?

— Там будзе весела?

— Мы патанчым?

— Паспяваем?

— Пагуляем?

— А смачнае там будзе што-небудзь?

— Ціха, ціха, надта шмат пытанняў. Усё там будзе. Вы прыходзьце ды самі пабачыце ды пачуеце.

— А нам там дадуць якое больш сур'ёзнае заданне? А тое шэшкаў ужо і за нячысцікаў не лічаць. Так, драбяза нейкая. А мы, калі гуртам, ведаеш якой дрэні нарабіць можам. У-у-у.

Юрась скрывіўся, спрабуючы стрымаць рогат, ды актыўна заківаў галавой.

— Канешне. Вы, галоўнае, прыходзьце.

Агнія ў гэты момант ужо была зацягнутая двума гарэзамі ў гульню «Злаві чарніцы ротам у палёце» ды рагатала гучней за некаторых нячысцікаў, таму юнак



апусціўся на траву, прапануючы Алісе сесці на пень побач, ды распачаў з шэшкамі абмеркаванне розных лясных навінаў ды іх чарговых прыгодаў. Аліса ж збірала ягады ў вядзерца, прыцягнутае шэшкамі і відавочна аднекуль украдзенае. Калі малая нарэшце нагулялася, тое ўжо было амаль да краёў поўнае.

— Гэта самыя крутыя стварэнні, якіх я ведаю, — пішчала малая, віснучы ў Юрася на руцэ. — Ну, пасля цябе, канешне.

Яны ішлі па вясковай дарозе дадому. Дзяўчатам час быў класціся спаць. Юрась жа ноччу таксама працаваў — сустракаўся з рознымі надта небяспечнымі нячысцікамі, накшталт балотніка, багніка ды аржавенніка, якія жылі ў гразкіх балотах, з начніцамі, стрыгай ды хапуном, якія маглі пашкодзіць маленькай Агніі, ды з самым жудасным ды вядомым нячысцікам гэтых мясцін — кадуком. Малая вельмі хвалявалася, калі Юрась сыходзіў уночы, таму ён намагаўся як мага хутчэй завершыць усе свае справы і да раніцы ўжо зноў быць дома.

На лаўцы каля вясковай крамкі бавілі час чацвёра не вельмі цвярозых мужчын. Яны гулялі ў карты, рагаталі ды раз-пораз падлівалі адзін аднаму гарэлкі ў шклянкі. Між іх сноўдала дзіўная істота, уся ў рэдкай цёмнай поўсці, з невялічкімі рожкамі, свіным рыльцам ды хвосцікам. Нячысцік дадаваў у чаркі нейкага парашку, рабіў так, каб гарэлка ў бутэльцы не заканчвалася ды змешваў карты, каб мужчыны

у Знешнім сусвеце, — Марк нервова загінаў хударлявыя няроўныя пальцы.

— Хопіць! — побач з імі раптам апынуўся Усевалад. — Хто вы такі, каб яго судзіць? Хто вы такі, каб вырашаць, чаго ён заслугоўвае, а чаго не? Хто вы такі, каб судзіць, наколькі добра ён мяне выхоўвае?

— А па табе, думаеш, не бачна? — мужчына схапіў юнака за каўнер. — Ды ў цябе на твары напісана, што з табой усё жыццё насіліся, як са скарбам. Яшчэ раз такое сабе дазволіш і тыдзень у мяне не сядзеш, ясна? Хутка на трэніроўку.

Юнак хацеў сказаць яшчэ нешта, але побач у час з'явіўся Кіт, які, выдатна ведаючы нораў свайго Настаўніка, адцягнуў сябра далей і сунуў яму ў руку арбалет.

— Вы ж разумееце, што, калі падымеце на яго руку, Стэфан вам гэтага не даруе, — ціха вымавіла Міра.

— Я кажу яшчэ раз: спачатку дачакайцеся яго вяртання. Лепшыя вельмі часта не дажываюць да старасці. І іх месцы займаем мы, нахабныя зайздрослівыя тыраны, — іранічна фыркнуў Марк. — Не прыходзьце больш на трэніроўкі — толькі правакуеце хлопца на канфлікты. Усяго найлепшага, Міраслава. Хутка ўбачымся.

— Спадзяюся, ніколі, — мармытнула дзяўчына і, кінуўшы апошні заклапочаны позірк на занятага трэніроўкай Усевалада, пашыбавала дадому, дзе яе чакалі цішыня ды пустэча.

120

тое, Міраслава не магла пакуль за яго адказваць — таму юнака пакінулі пад наглядам Марка.

Ужо некалькі разоў Міра праведвала яго падчас трэніровак і бачыла, што з кожным днём хлопец адчувае сябе ўсё горш. Трэба было нешта змяняць, нешта рабіць. Урэшце ні Стэфан, ні Усевалад ёй не чужыя людзі.

Калі яна назірала за мінулай трэніроўкай — чарговы раз упэўнілася ў тым, што гэты юнак шмат для яе значыць. Нешта большае, чым увогуле змяшчалася ў яе галаве. Яна не разумела, што з ёй адбываецца, бо была ўпэўненая ў сваіх пачуццях да Стэфана. Але ад гэтых дасканалых рухаў, упэўненых зялёных вачэй, выразных падціснутых вуснаў немагчыма было адвесці позірк.

Ён на хвіліну спыніў трэніроўку, заўважыўшы яе, і стрымана, але ветліва кіўнуў галавой. Па твары было бачна, што ён дрэнна спаў апошнія ночы — і гэта, напэўна, усё, што па ім было бачна. Ён працаваў далей, зацята ды ўпарта, так, быццам гэтая трэніроўка была апошняй. Міра тады заўважыла, што яго татуіроўка заматаная белымі бінтамі. Значыць, яна яго непакоіць. Значыць, Стэфан у небяспецы. Але за мужчыну яна чамусьці не спалохалася. Няўжо ёсць нешта, чаго ён не адолее? А вось за Усевалада яна хвалявалася. У яго ўсё заўсёды атрымлівалася лёгка, з паловы руху. Калі ён так выкладваецца на трэніроўках — значыць, нешта вельмі сур'ёзна непакоіць яго.

117

Сёння ён трэніраваўся разам з Мікітам, а Марк за гэтым назіраў, з асалодай жуючы сакавіты яблык. Ясная справа, Мікіту даводзілася прыкладаць больш сілы, чым Усеваладу, і ён увесь час саступаў.

— Перастань яму паддавацца, Мікіта! — урэшце раззлавана рыкнуў Марк. — Інакш я з табой па-іншаму буду размаўляць.

— Калі ласка, Кіт, — шэптам вымавіў Усевалад.

У наступнае імгненне юнак не ўтрымаў меч ды ўпаў на зямлю, намагаючыся пазбегнуць удару сябра. І Міра цудоўна бачыла, хто каму паддаўся. Затое настаўнік быў задаволены.

— Нарэшце! Мікіта, у цябе пяць хвілін адпачынку. Усевалад, пяцьдзясят адцісканняў.

— Добрай раніцы, Майстар Марк, — з-за плота крыкнула Міра. — Можна Вас на хвілінку?

Мужчына падышоў неахвотна ды павольна, пагардліва аглядаючы дзяўчыну.

— Калі вы прыйшлі ўпрошваць мяне адпусціць Усевалада з вамі, дык можаце не старацца. Я не буду парушаць правілаў.

— У гэтым уся справа, праўда? У тым, што вы жывяце па правілах, але гэта не надае вам паспяховасці? Ваш вучань усё роўна слабейшы за вучня Стэфана, вы і сам слабейшы за Стэфана. Менавіта таму вы расказалі юнаку пра Стэфа ды Фелікса.

— Справа не ў слабасці. Але я не буду з вамі гэтага абмяркоўваць.



— Вы жа раней былі сябрамі? Што здарылася? Зайздрасць? — крыкнула Міра ў спіну мужчыну, які ўжо павярнуўся, каб сыходзіць.

— Вам не варта быць такой дзёрзкай! — раптам выбухнуў мужчына. — Не так ужо шмат у гэтым сусвеце Майстроў з Вучнямі, якія б згадзіліся ўзяць Падмайстра.

— Мне не патрэбны іншы Майстар акрамя Стэфана.

— Дачакайцеся яго вяртання, каб так казаць, — злосна прашаптаў Марк.

Міра разглядала яго худы твар з рэзкімі тонкімі рысамі ды вузкімі, поўнымі пагарды, цёмнымі вачыма. І так хацелася ў гэты твар даць. Але Усевалад і так не ў самых лепшых умовах, не варта псаваць яму жыццё яшчэ больш.

— За што вы яго так ненавідзіце?

— За тое, што Стэфану можна ўсё. Стэфану можна стрэліць у спіну аднаму з самых моцных Ваяроў, бо той быццам бы хацеў забіць свайго вучня паводле нейкага старажытнага абраду, які ці існаваў увогуле?! Стэфану можна ўзяць сабе неверагодна моцнага і таленавітага вучня. Стэфану можна быць у складзе Рады Майстроў, не маючы ступені Майстэрства. Стэфану можна прабачыць сур'ёзныя хібы ды памылкі ў выхаванні вучня. Больш за тое, пасля такой істотнай правіны замест таго, каб паказаць усім, што бывае з парушальнікамі правілаў, можна даць Стэфану адно з самых істотных заданняў

## Шостая

Міраславу адарваў ад спраў настойлівы грукат у дзверы. У галаве мільганула радасная думка: Стэфан! Але чаго б ён грукаўся? Можа, Усевалад? Напэўна, моцна пасварыўся з Маркам ды сышоў. Гэта прымусіла яе занепакоіцца. Аднак чалавек, які грукаў, усхваляваў яе яшчэ больш. Бо гэта быў сам Майстар Марк. Ён раз'юшана заляцеў у хату, як толькі Міра адчыніла дзверы.

— Дзе ён?

— Хто?

— Усевалад. Я ведаю, што ён пайшоў да цябе! — мужчына пагрозліва наблізіўся.

— Па-першае, яго тут няма. Па-другое, гэта вы павінны за ім сачыць — адпаведна ў вас і трэба спытаць, дзе ён!

Нешта падказвала Міры, што хлапец ужо далёка і шукаць яго бессэнсоўна.

— Гэта ўсё твая віна. Ты яго справакавала! — Марк махаў у яе перад тварам вузлаватым указальным пальцам.

— Ды няўжо? Гэта не я яму стварыла немагчымыя ўмовы! Гэта не я яго ўвесь час прыніжала ды муштравала.

— Я не муштраваў і не прыніжаў. Я яго выхоўваў, у адрозненне ад Стэфана. Такім, якім належыць быць Ваяру.

124

***

Аліса піла зёлкавую гарбату, закусваючы неверагодна смачным самаробным печывам, ды чарговы раз прабягала вачыма па знаёмых радках пра Перунову зорку. У вядзьмарскіх кнігах увогуле было шмат цікавага, і яна ўсё больш часу праводзіла за іх чытаннем, пакуль Агнія цягалася па лесе з Юрасём, бо «яму патрэбны нагляд». Аля ўсё больш прывязвалася да розных міфічных істот, пачынаючы з гарэзлівых шэшачак і заканчваючы крыху занудлівым ды надта клапатлівым хатнікам. І ёй вельмі падабалася чытаць ды даведвацца пра іх больш.

— Ты ўжо не першы раз чытаеш пра гэта, — цераз плячо зазірнула вядзьмарка. — Чаму цябе так зацікавіла?

— Проста бачыла недзе гэты сімвал, — штосьці ўтрымала Алісу ад таго, каб сказаць праўду.

— Ад людзей, якія носяць «Зорку Перуна» на адзенні, лепш трымацца далей, сонейка.

— Чаму?

— Яны забойцы, бязлітасныя забойцы. Міфічным істотам не варта трапляцца ім на вочы.

— Тут напісана, што яны забіваюць толькі небяспечных, шкодных істот, — заўважыла Аліса.

— Не ўсё, што напісана — праўда. Ну, хіба яны могуць неяк вызначыць «добрасць» ці «шкоднасць» нячысціка? Нячысцік — значыць шкодны. Ведаеш,

121

як яны іх называюць? Пачвары. Ты шэшак бачыла? Ну якія яны пачвары? А Юрчык наш? Самая пачварная пачвара ў свеце. А яны б яму кулю са срэбнай манеты ў лоб пусцілі, не разважаючы.

Аліса звяла бровы. Сапраўды, можа прыгажуня ў лесе і не зрабіла б нічога дрэннага таму юнаку. У рэшце рэшт, толькі адны істоты пакуль хацелі ім сапраўды нашкодзіць — звар'яцелыя азярніцы. Больш ніхто не жадаў ім зла. А калі нячысцікаў не кранаць, не крыўдзіць ды не савацца на іх тэрыторыю — дык яны цудоўна існуюць поплеч з людзьмі. Часам нават карысць робяць, як той жа Хут. У глыбіні прачыналася нейкае дзіўнае пачуццё. Нібы яна крыўдавала на юнака, нібы ён не апраўдаў яе чаканняў, расчараваў яе.

— Як жа нячысцікі ад іх абараняюцца?

— Для гэтага і ёсць мы, — вядзьмарка паклала ёй на калені сваю далонь. — Мы ставім для іх розныя пасткі, заблытваем сляды, затрымліваем рознымі сродкамі, каб яны не шкодзілі нашым малодшым сябрам.

— Чаму вы кажаце «мы»? Вы маеце на ўвазе ўсіх вядзьмарак?

— Я маю на ўвазе нас з табой, маё сонейка. Я кажу «мы», бо мне вельмі патрэбна вучаніца. І ёю можаш стаць толькі ты.

— Чым я такая асаблівая?

— Ты мая старэйшая ўнучка, Алісачка. І ты навучылася бачыць міфічны сусвет наноў — гэта абавязковая ўмова для таго, каб стаць вядзьмаркай. Але ты павінна згадзіцца на гэта сама.

— Дык вы мая бабуля? — здзіўлена пацікавілася дзяўчына. — А дзядуля думае, што вы памерлі… (неяк так атрымліваецца: дзяўчына даведалася, што ў яе, аказваецца, ёсць бабуля, і яна вядзьмарка, і яна зараз сядзіць перад ёю і ніяк на гэта не адрэагавала.)

— І хай думае, маленькая мая. Яму так будзе спакайней, павер мне. Дык што скажаш?

— Якая з мяне вядзьмарка? Я і здольнасцяў ніякіх не маю, — Аліса разгублена вадзіла далонню па кніжным аркушы.

— Ты атрымаеш усю маю сілу, калі я памру. А адбудзецца гэта даволі хутка. Не глядзі на маю знешнасць — гэта ўсё чараўніцтва. Не хацелася проста быць тыповай Бабай Ягой з казак. Але перад смерцю я павінна навучыць цябе, інакш ты не будзеш гатовая да той сілы, якую атрымаеш, — Вядзьмарка ўсміхалася цёпла ды даверліва.

— І я змагу абараняць нячысцікаў ад Ваяроў?

— Канешне, і трымаць іх пад кантролем, каб яны шмат не сваволілі. Любая, я разумею твае сумненні, але ты зможаш змяніць сваё рашэнне ў любы момант да таго, як забярэш маю сілу.

— Ну, тады можна паспрабаваць, — няўпэўнена ўсміхнулася Аліса.

Ваяр сядзеў, не рухаючыся, нізка апусціўшы галаву. Па шчоках яго пайшлі чырвоныя плямы, нібы з ім рабілі нешта неверагодна ганебнае.

— Ты ж быў на маім месцы, праўда? — раптам слаба заўважыў ён. — Ты ж адчуваў усё гэта. Няўжо табе не агідна?

— Я не быў на тваім месцы, — раззлавана прашыпеў Юрась. — Гэта быў не я. Пасачыце за ім, дзяўчаты. Я паклічу Вядзьмарку.

Як толькі ён выйшаў, Аліса заклапочана падышла да юнака і села побач.

— Можа, я магу табе нечым дапамагчы?

— Аля, не падыходзь да яго! Ён жа з гэтых, з забойцаў!

Хлапец сумна ўсміхнуўся.

— Вы не бачылі дзе-небудзь побач яшчэ аднаго «з забойцаў»? Сталейшы за мяне.

— Я чула пра аднаго… Але ён быў тут шмат гадоў таму.

— Не, гэта не тое. М-м-м, які ж я самаўпэўнены дурань, — юнак здрыгануўся, спрабуючы выбрацца, грукнуў звязанымі кулакамі аб стальніцу ды зноў бязвольна апусціў галаву.

— Слухай, а вось той ваяр шмат гадоў таму шукаў сына, вельмі падобнага да цябе, — Аліса намагалася адцягнуць хлапца ад змрочных думак размовамі.

— У ваяра не можа быць ні сына, ні дачкі, ні ўвогуле сям'і.

128

— Стэф выхоўваў з яго не Ваяра, — з горкай усмешкай пахістала галавой Міра. — Стэф выхоўваў з яго чалавека.

— Наіўная ты дурнічка. Ён і з тваімі пачуццямі гуляў, праўда? Пазнаю Стэфана. Затлуміў малому галаву сваімі байкамі пра справядлівасць, роўнасць, узаемапавагу — а насамрэч… Нічога з гэтага яго ніколі не цікавіла. Яму патрэбна толькі ўвага. Ён хоча, каб яго шанавалі, каб перад ім схіляліся, каб ім захапляліся. Гэта яшчэ з дзяцінства. Феліксу ніколі не было да яго справы. І Стэфан гатовы быў хоць на галаве хадзіць, каб прыцягнуць увагу настаўніка. А потым засадзіў яму арбалетны болт у спіну. Таму што яму патрэбны быў Усевалад.

— Фелікс хацеў забіць малога!

— Гэта табе хто сказаў? Стэфан? А больш няма ў каго ўдакладніць, праўда? З Усеваладам ён атрымаў у сваю ўладу несканчальную крыніцу ўвагі. З аднаго боку, ад хлопчыка — як настаўнік, з іншага боку, да хлопчыка — як настаўнік неверагодна моцнага ды здольнага вучня. Усевалад сапраўды мацнейшы за ўсіх вучняў, якіх я ведаю. Але Стэфан не навучыў яго кантраляваць гэтую энергію, не навучыў кантраляваць сябе. І аднойчы гэта можа дрэнна скончыцца. Я не люблю Стэфана, так, але я нічога не маю супраць хлопчыка. Яму проста патрэбна цвёрдая рука.

— І гэтая рука — ваша? Настаўнік не можа мець двух вучняў. А вы такі ж, як Фелікс. Ваш вучань не

125

апраўдвае вашых спадзяванняў, таму вам патрэбны іншы, мацнейшы. Але ва Усевалада ўжо ёсць настаўнік. І іншы яму не патрэбны. А вам не патрэбны іншы вучань — Мікіта цудоўны хлопчык. Да якога настаўніку якраз няма справы. Бо вас хвалюе не ён сам, а толькі ягоныя поспехі. Калі вы пабіліся з Усеваладам? Правільна, менавіта пасля таго, як на прамежкавым кантролі ён чарговы раз справіўся лепш за Мікіту.

— Кожны з нас застанецца са сваёй праўдай, спадарыня Міраслава. Але я зраблю ўсё, каб гэтую выхадку ім абодвум не прабачылі і аддалі хлопчыка пад мой нагляд. І Падмайстра ў дадатак. Таму ім лепш сюды не вяртацца. Сустрэнеце — перадайце.

***

Аліса якраз паўтарала прызначэнне розных зёлак, што вывучыла за тыдзень, а Юрась з Агніяй гулялі ў ладачкі, седзячы каля каміна, калі ў хату ўварваўся дзіўнага выгляду стары. Ён быў нізенькі, скручаны і з даўгой сівой барадою. За сабою ён цягнуў на вяроўцы чалавека з торбай на галаве і перавязанымі рукамі. Юрась імкліва схаваў Агеньчыка за спінай. Аліса ціха войкнула, бо пазнала таго, каго прыцягнуў нячысцік, нягледзячы на мех на галаве.

— Вечар добры ў хату. Прывёў вам вось.

— Ты ж толькі на малых дзетак палюеш, Хапун, — здзекліва заўважыў юнак, які таксама ўжо здагадаўся, каго да іх прывялі.



— Палюю. Заношу ў самую чашчобу лесу ды там крапівой сцябаю, — дзед з цікавасцю зірнуў у бок Агніі. — Ды вось не ўтрымаўся. Як такому мех на галаву не ўздзець? Я б і крапівой яшчэ адсцябаў, калі б не спяшаўся Вядзьмарцы яго прыцягнуць.

Юрась узняўся, адной рукой моцна сціскаючы далонь Агніі і не адпускаючы яе ад сябе, а другой шукаючы нешта ў кішэні. Нарэшце сунуў Хапуну жменю залатых вугалькоў, якія атрымаў ад Хута. Той адразу ж сцягнуў з палонніка мех, сыпануў туды свой новы скарб ды коротка развітаўшыся, задаволена знік.

— Зноў вы, — жмурачыся ад святла вогнішча, прамармытаў Ваяр. — Такое адчуванне, што Знешні сусвет яшчэ меншы за Унутраны.

Юрась толькі фыркнуў ды, схапіўшы хлапца за запясці, пацягнуў да стала.

— Аліса, зялёная шклянка на верхняй палічцы, першая злева, — як толькі зелле апынулася ў яго, ён прымусіў хлапца выпіць.

Дзяўчына ніколі не бачыла маладога чалавека настолькі жорсткім, бязлітасным, рэзкім, — і такі Юрась яе вельмі палохаў. Палоннік жа раптам саслаб, зусім перастаў супраціўляцца, у той жа момант быў распрануты да кашулі і шчыльна прывязаны да крэсла. Юрась зняў у яго з пояса меч, з пляча — арбалет, з-за паса высунуў кароткі кінжал.

— Ну, я ж ведаю, што гэта не ўсё.

# Гульня з душой кнігі



Лёгка і адначасова складана казаць пра тое, што бязмерна любіш сам. Але сказаць варта.

На двары 2002 год, у свет выйшла культавая гульня, якая мае велізарную колькасць фанатаў па ўсім свеце, — The Elder Scrolls III: Morrowind ад студыі Bethesda Softworks. Наш персанаж прачынаецца ў паўзмроку карабельнага трума. Першае, што мы чуем, — плёскат вады і бурклівы голас яшчэ аднаго пасажыра: «Ну ты і соня! Цябе нават учарашні шторм не разбудзіў. Кажуць, мы ўжо прыплылі ў Моравінд. Нас выпусцяць, гэта дакладна». У ролі невядомага зняволенага мы ступаем на зямлю выспы Вардэнфел, нас прывезлі сюды з пакуль не вядомай мэтай і толькі з той прычыны, што персанаж нарадзіўся ў пэўны час пад пэўнымі зоркамі. Пасля кароткай папяровай цяганіны нас выпускаюць на волю, забяспечыўшы ўказаннямі, куды прайсці. Што зусім не абавязкова. Гульцу прапануецца велізарны, насычаны свет, у якім толькі ён сам вырашае, куды ісці і што рабіць.

Мы знаходзімся на вулканічнай выспе, дастаткова вялікай, каб на ёй размясціўся з дзясятак гарадоў і невялікіх паселішчаў. Карэннае насельніцтва выспы — попельнаскурыя Данмеры, адна з народнасцяў эльфаў гэтага свету. Падазроныя да чужынцаў, самі яны падзелены на Вялікія Дамы, якія ў сваю чаргу выбудоўваюць палітыку дзяржавы ў чарадзе ўнутраных інтрыг і з аглядкай на волю Трыбунала — трох жывых багоў данмераў. Некалі смертныя, гэтыя істоты атрымалі амаль неабмежаваную ўладу і шанаванне. Але яны далёка не бездакорныя…

Інфармацыі шмат, але не палохайцеся. Гульня поўная дэталяў, якія дапамогуць разабрацца ў сюжэце і асаблівасцях гэтага свету. Фактычна перад намі ролевая гульня ад першай асобы, вельмі падрабязная і разнастайная. Прасоўваючыся па сюжэце або проста даследуючы выспу, гульцам прыйдзецца стасавацца, змагацца, гандляваць, вучыцца магіі і алхіміі. Вы зможаце далучыцца да аднаго з дамоў ці гільдый, паляваць на вампіраў або стаць адным з іх… І вядома, атрымліваць асалоду ад відаў флоры і фаўны выспы, якія сапраўды могуць здзівіць.

Кагосьці можа стаміць вялікая колькасць тэксту, але цярплівыя будуць узнагароджаны. Гульня дастаткова медытатыўная. За музычнае суправаджэнне ўсёй серыі The Elder Scrolls варта дзякаваць амерыканскаму кампазітару Джэрэмі Соулу (Jeremy Soule). Для мяне Morrowind — гэта глыбокая гульня з душой кнігі, сюжэт якой кожны напіша сам. А пакуль… «Пад гэтым сонцам і небам мы цёпла вітаем цябе».

***Вадзім Каплун***

# Бярозка



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп’ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 12.08.2016 г.
Фармат 60х84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,38.
Тыраж 739 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь






Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — фота Рыты Шылей.*





**ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:**

**1.** У доме 21 паверх. На першым жывуць два чалавекі, на другім – чатыры, на трэцім – восем… і так на кожным наступным у два разы больш, чым на папярэднім. Пытанне: кнопку з якой лічбай у ліфце жыхары дома націскаюць часцей за ўсё?

**2.** Што стане з зялёнай хусткай, калі яна ўпадзе ў Жоўтае мора?

**3.** Без чаго нічога ніколі не бывае?

**4.** На стале ляжыць 100 аркушаў паперы. За кожныя 10 секунд можна падлічыць 10 аркушаў. Колькі секунд спатрэбіцца, каб падлічыць 80 аркушаў?

**5.** Адно кінуў, цэлую жменю потым узяў. Што гэта?

**6.** Што гэта за трава, якую нават ноччу ні з якой іншай не зблытаеш?



Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Кнопку з лічбай «1», бо ўсім ім трэба на першы паверх спускацца.
2. Хустка намокне.
3. Без назвы.
4. 20 секунд, якія трэба, каб падлічыць 20 аркушаў. Тых, што засталіся, якраз і будзе 80.
5. Насенне.
6. Крапіва.

# Падарунак ад Вожыка

















Аўтар Аляксандр Каршакевіч



Аўтар Аляксандр Каршакевіч



Досця ў Дарозе

## АРЫЕНТАВАННЕ НА МЯСЦОВАСЦІ
















ISSN 0320-7579
EAC
9 770320 757007 16008